


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

24 ЖНІЎНЯ 2001г. № 34/4118 КОШТ 130 РУБ.




### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на чацвёрты квартал 2001 года. Падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 750 рублёў, на тры — 2250 рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2000 рублёў, на тры - 6000 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**
**Ведамасны індэкс — 63857.**

***Спрадвечнае,***
***знаёмае,***
***не вытруцілі***
***з нас...***

*Фота Анатоля КАЛЯДЫ*



# КОЛА ДЗЁН

***Яшчэ нядаўна ў школах звінеў апошні званок для выпускнікоў, а ўжо праз тыдзень празвініць першы званок для першакласнікаў, якія стануць першымі першакласнікамі, што прыйшлі ў школу ў дваццаць першым стагоддзі. Яшчэ, здаецца, нядаўна пачыналі гаварыць пра прэзідэнцкія выбары ў нашай краіне, а ўжо да іх засталося 16 дзён. 21 і 22 жніўня з 18.30 да 19.30 па БТ, а 23 і 24 жніўня з 8 да 9 гадзін па радыё можна было паслухаць 30-хвілінныя выступленні кандыдатаў у прэзідэнты Сяргея Гайдукевіча, Уладзіміра Ганчарыка, Сямёна Домаша і Аляксандра Лукашэнкі. Такія ж выступленні можна будзе паслухаць 28 і 29 жніўня з 18.30 да 19.30 па БТ, а 30 і 31 жніўня з 8 да 9 гадзін па радыё. Праўда, у апошнія дні гэты расклад істотна парушыўся, бо Сямён Домаш зняў сваю кандыдатуру на карысць Уладзіміра Ганчарыка, а Аляксандр Лукашэнка адмовіўся 22 жніўня выступаць па БТ. У выступленнях кандыдатаў ёсць што паслухаць і над чым задумацца. А думаць трэба...***

## МІЛЬЯНЕРЫ ТЫДНЯ

Па звестках прэс-службы Мінсельгасхарча, па стане на 20 жніўня збожжавыя і зернебабовыя сабраны з 72,2 працэнта плошчаў. Першымі завяршаюць жніво ў Брэсцкай вобласці (85,3 працэнта), дзе вал збожжа склаў 756,1 тысячы тон пры сярэдняй ураджайнасці 25 цэнтнераў з гектара. Найбольшая ўраджайнасць у Гродзенскай вобласці — 32,77 ц/га (агульны намалот — 1 мільён 42,9 тысячы тон), далей ідзе Мінская вобласць, дзе ўраджайнасць склала 24,2 ц/га (намалочана — 1 мільён 40,8 тысячы тон). Нягледзячы на тое, што з 1 мільёна 892,7 тысячы гектараў намалочана 4 мільёны 421 тысяча тон збожжа, работнікі Мінсельгасхарча мяркуюць, што, на жаль, ужо сёння ўраджайнасць збожжа на 0,22 цэнтнера ніжэйшая ў параўнанні з адпаведнай датай мінулага года. І, відаць, намалаціць 6 мільёнаў тон збожжа ў гэтым годзе не атрымаецца...

## ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову па захаванні і адраджэнні гістарычных цэнтраў гарадоў нашай краіны. Міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва, культуры, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, Мінгарвыканкаму і аблвыканкамам даручана да 1 ліпеня 2002 года ўнесці ва ўрад прапановы, якія б датычыліся парадку рэалізацыі праектаў адраджэння важных гісторыка-культурных забудоў і комплексаў. Згодна з пастановай, ужо да верасня гэтага года павінен быць распрацаваны праект стварэння цэнтра падрыхтоўкі спецыялістаў у галіне культурнага турызму на базе Мірскага замка. Да 2003 года павінна ажыццявіцца пашпартызацыя ўсіх гісторыка-культурных каштоўнасцей Мінска і Гродна. Мінгарвыканкаму даручана актывізаваць работу па аднаўленні гістарычнага квартала Мінска "Верхні горад" і да 2005 года аднавіць гарадскую ратушу і царкву Святога Духа... Планаў шмат, і хочацца верыць, што яны стануць явай, а не застануцца на паперы, як гэта ўжо было раней...

## АПЫТАННЕ ТЫДНЯ

Сацыялагічныя службы існуюць ва ўсім свеце і апытаннем людзей займаюцца не толькі ў нашай краіне. Пытанні бываюць розныя, як і адказы на іх. Тыднёвік Veidas надрукаваў вынікі апытання літоўцаў пра іх адносіны да суседзяў. На жаль, сваімі найлепшымі суседзямі нас, беларусаў, лічаць толькі 6 працэнтаў апытаных літоўцаў. Не можа суцешыць нават тое, што ў расіян рэйтынг яшчэ меншы — 5 працэнтаў, бо ў латышоў — 37,2 працэнта, а ў палякаў — 27,6 працэнта. Словам, ёсць над чым задумацца...

## ХВАЛЯВАННЕ ТЫДНЯ

У некаторых сродках масавай інфармацыі прайшло паведамленне, што апошнім часам назіраецца падзенне курсу долара ЗША ў адносінах да іншых вядучых сусветных валют, пры гэтым робяцца папярэджанні нават адносна магчымага абвалу долара. У гэтых жа СМІ нас супакойваюць, што гэта нічога страшнага, бо такое адбывалася і раней, што ў Амерыцы дзяржаўны доўг мае ўстойлівую тэндэнцыю да скарачэння, а ўзровень беспрацоўя значна ніжэйшы, чым у іншых краінах свету. І сапраўды, нічога страшнага для нас, калі долар ЗША ўпадзе ў цане, бо мы маем сваю валюту, за якую нам у першую чаргу трэба хвалявацца. А пакуль што 1 долар ЗША ў нас каштуе 1465 рублёў...

## АКЦЫЯ ТЫДНЯ

Гісторыя краіны — гэта не мастацкі твор, які можна перапісваць, як Леў Талстой "Вайну і мір", да таго часу, калі твор прыблізіцца да дасканаласці. Аднак гісторыю перапісвалі, перапісваюць і будуць перапісваць пакуль гісторыя, якая стала афіцыйнай, будзе не толькі афіцыйнай, але і сапраўднай. За сапраўдную гісторыю змагаюцца не толькі гісторыкі, але і радавыя грамадзяне той ці іншай краіны. У кожнага свая метода. Але тое, што прыдумалі карэйцы, не кожны зможа паўтарыць нават дзеля праўдзівасці гісторыі ўласнай краіны. У Сеуле дваццаць карэйцаў публічна адрэзалі сабе мезенцы, пратэстуючы супраць новага тлумачэння падзей другой сусветнай вайны, прынятага ў японскіх падручніках па гісторыі. У падручніках апраўдваецца захоп японцамі Паўднёвай Карэі і замоўчваюцца факты аб зверствах японскай арміі. Удзельнікі акцыі пратэсту скандзіравалі лозунг: "Выправім скажоную гісторыю". Але ці ўразяць японцаў адрэзаныя мезенцы настолькі, каб перапісаць падручнікі?

## ПЫТАННЕ ТЫДНЯ

Сярод нас, відаць, мала такіх людзей, якіх амаль не хвалюе кватэрнае пытанне. Гэта пацвярджаюць і лічбы, згодна з якімі па сённяшні дзень амаль паўмільёна беларусаў стаіць у чарзе на кватэру. Але адны чакаюць кватэр, а другія, маючы кватэры, у іх не жывуць. Цяпер у Беларусі налічваецца 25654 кватэры, якія пустуюць (у іх ніхто не прапісаны), але, тым не менш, маюць канкрэтнага гаспадара. Самая вялікая колькасць такога жылля ў Мінску — 12419 кватэр. У Брэсцкай вобласці — 17774 кватэры, Віцебскай — 2149, Гомельскай — 4085, Гродзенскай — 1604, Мінскай — 1207, Магілёўскай — 2416 кватэр. Агульная плошча гэтых памяшканняў складае 1,1 мільёна кв. м. Вось вам і кватэрнае пытанне — каму нічога, а каму пяць кватэр мала...

## ВЫГОДА ТЫДНЯ

Завяршаецца рэалізацыя праграмы рэспубліканскага аб'яднання "Белтэлекам" па ўкараненні універсальных тэлефонных картак на тэрыторыі нашай краіны і замене жэтонных таксафонаў. Цяпер кожны жыхар абласнога і раённага цэнтраў Беларусі пры дапамозе новых тэлефонных картак зможа весці размову з абанентам у любым пункце свету. Напрыклад, карткі ў 500 тарыфных адзінак хопіць на 3 гадзіны 20 хвілін размовы па Беларусі, на 9 хвілін — сувязі з Расіяй, на 7 хвілін — каб паразмаўляць з абанентам у Еўропе або на 2 хвіліны — з абанентам у ЗША. Такімі вось выгодамі зможа карыстацца любы жыхар нашай краіны, абы ў яго было за што купіць новую тэлефонную картку...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Прыняць удзел у традыцыйных жнівеньскіх нарадах, выказаць свае думкі аб удасканаленні супрацоўніцтва паміж школай і пісьменніцкай арганізацыяй, выкладання беларускай літаратуры і г. д. — такая магчымасць сёлета была дасягнута дзякуючы дамоўленасці паміж СБП і Мінскім гарадскім упраўленнем адукацыі.

Учора ў рабоце педагагічнай канферэнцыі ў Савецкім раёне сталіцы бралі ўдзел Н. Гальпяровіч і У. Глушакоў, сёння перад педагогамі Цэнтральнага раёна выступае І. Шаўлякова. У Маскоўскім раёне пабывае Г. Далідовіч, у Першамайскім — В. Праўдзін, у Фрунзенскім — У. Мархель, у Партызанскім — А. Пісьмянкоў і В. Шніп, у Кастрычніцкім — А. Канапелька, у Ленінскім — В. Коўтун, у Заводскім — І. Качаткова.

●

Добра ведаюць і ўшаноўваюць пісьменнікаў-землякоў на Віцебшчыне, — паведаміў у лісце, які прыйшоў на адрас Саюза пісьменнікаў, намеснік старшыні аблвыканкама П. Южык. У прыватнасці, сёлета ўжо былі адзначаны юбілеі Я. Сіпакова (Аршанскі раён), Янкі Журбы (г. Полацк, г. Чашнікі), А. Нафрановіча (Паставы). Прайшлі таксама XIII Пушкінскае свята паэзіі ў Віцебску і абласное свята паэзіі "Ушацкія крыніцы".

Цяпер грамадскасць вобласці рыхтуецца адзначаць 70-годдзе Анатоля Вярцінскага. Юбілейны вечар пройдзе на яго радзіме ў Лепелі.

**Н. К.**

ДАТЫ

# ...І "Нёманам" кіраваў

На Беларусі Адама Сідаравіча Чопчыца ведаюць. Руплівец самадзейнага мастацтва, педагог, заслужаны дзеяч культуры. Дасведчаны практык і дарадца, чый талент сілкаваўся фальклорнымі традыцыямі роднай Жыткаўшчыны, чый досвед узбагачаўся навучаннем у колішнім сталічным педінстытуце імя М. Горкага і ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, чый прафесіяналізм гартаваўся на выкладчыцкай працы ў Пінскім педагагічным і Гродзенскім музычным вучылішчах.

У 50-х гадах Адам Чопчыц кіраваў Пінскім народным хорам палескай песні, а з 1960 па 1983 г. быў мастацкім кіраўніком Гродзенскага народнага ансамбля песні і танца "Нёман". Самабытны калектыў менавіта ў гэты перыяд дасягнуў высокага майстэрства, паспяхова выступаў у ГДР, Іспаніі, Польшчы... А свае педагагічныя набыткі нястомны Адам Сідаравіч абагульніў у шэрагу вучэбных і метадычных дапаможнікаў па спевах для агульнаадукацыйных школ.

Нядаўна яму споўнілася 80. Віншуем з юбілеем!

**Н. К.**

# На палотнах — украінскае Палессе

Палескі край ва ўсёй яго шматаблічнасці прадстане на выставе твораў мастакоў Житомірскай вобласці Украіны, якая адкрыецца 28 жніўня ў Мінскім музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.

Выстава прысвечана 10-гадоваму юбілею Незалежнасці Украіны, і яе арганізатары — Пасольства Украіны ў Беларусі, Житомірская абласная дзяржаўная адміністрацыя, дырэкцыя музея — спадзяюцца, што аматары мастацтва годна ацэняць работы ўкраінскіх майстроў.

Житомірская абласная арганізацыя Саюза мастакоў Украіны аб'ядноўвае больш за 40 скульптараў, жывапісцаў, графікаў, манументалістаў, мастакоў тэатра і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Узначальвае арганізацыю заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны Дзмітрый Красняк.

Можна сказаць, што ў іх творчасці адлюстраваны ўвесь спектр напрамкаў і жанраў сучаснага мастацтва. Сярод нашых майстроў — шырока вядомы на Украіне бліскучы віртуоз нацюрморта народны мастак Украіны Н. Максіменка, мастак рознабаковага таленту Л. Шалудзька, псіхолаг і тонкі лірык Б. Партной, прыхільнік сімвалічнай вобразнасці А. Шахрай, натхнёныя апявальнікі Палесся М. Мальцаў, Ю. Каргаполаў, К. Камышны, В. Кулік. С. Антанюк. Хвалююць напоўненыя магутным нацыянальным светаадчуваннем работы В. Нечуйвітра, уражвае тонкае адчуванне формы і матэрыялу Д. Красняка. Удумлівы глядач ацэніць рознапланавую эстэтыку Н. Касніцкай, у якой спляліся рэалістычныя і рамантычныя элементы, складаная, напоўненая супярэчнасцямі і дысанансамі XX стагоддзя творчасць С. Зялёнай, натхнёны і чысты дух палотнаў П. Багамаза, тонкі эстэтызм М. Вярбіцкай, напоўненыя драматычнай рамантыкай вобразы В. Вярбіцкага, інтэлектуальная, у поўным сэнсе гэтага слова, рамантычная творчасць Н. Буткоўскага, рамантычны свет В. Радзецкага, у творчасці якога спляліся язычніцкі і хрысціянскі космас, яркі, магутны, манументальны рэалізм Ю. Камышнага. Некан'юнктурна, шчыра прадстаўлена нацыянальная тэматыка ў творчасці В. Кандрацюка. Тэма старога Житоміра выразна і цікава гучыць у творчасці А. Разіцкага.

У кожнага мастака свая духоўная галактыка. А аб'ядноўвае іх імкненне да прыгажосці, гармоніі, дасканаласці.

**І. ВІШНЯВЕЦКАЯ**

БАЛЕТ

# Калі прачнецца... Клеапатра?

Менеј чым тыдзень застаецца прыхільнікам Тэрпсіхоры чакаць урачыстых уваходзінаў у дом на сталічнай Траецкай гары. 29 жніўня тут адкрые свой чарговы сезон Нацыянальны акадэмічны тэатр балета Беларусі. На афішы — "Спартак", выпрабаваны часам спектакль Валянціна Елізар'ева з музыкай Арама Хачатурана і мастацкім афармленнем Яўгена Лысыка, шматкроць паказаны для замежнай публікі, у тым ліку і гэтым летам.

А 31 жніўня ўаматараў прыгожага мастацтва ёсць шанц паглядзець "Спячую прыгажуню", першыя прэм'ерныя паказы якой адбыліся пры канцы мінулага сезона. Гераіня балета П. Чайкоўскага прынцэса Аўрора чарговы раз "прачнулася" на беларускай сцэне дзякуючы мастацкаму кіраўніку тэатра В. Елізар'еву, які далікатна ўзнавіў класічную харэаграфію М. Пеціпа і ўлучыў яе ў маляўнічы свет свайго творчага спадзвіжніка, мастака-сцэнографа В. Окунева.

Падчас адной з сёлетніх прэс-канферэнцый маэстра Елізар'еў, са зразумелай прымхлівасцю творчага чалавека не схільны распавядаць пра ўласныя мастацкія задумы, адно толькі намякнуў на сваю будучую працу. Разам з кампазітарам Вячаславам Кузняцовым, які паспяхова дэбютаваў на харэаграфічнай сцэне аднаактовым творам "Макбет" (балетмайстар Наталля Фурман), Валянцін Елізар'еў працуе над вечным шэкспіраўскім сюжэтам — "Антоній і Клеапатра". Вось, бадай, і ўся інфармацыя, да якой дадаць можна хіба толькі тое, што назва новага балета — "Клеапатра". Застаецца толькі цярпліва чакаць таго ўрачыстага моманту, калі гераіня, абуджаная творчым натхненнем харэографа, кампазітара, выканаўцы, усіх стваральнікаў будучай пастаноўкі, — "прачнецца". І ўразіць публіку.

**С. Б.**



*Аўрора — Людміла Кудраўцава ў сцэне са спектакля "Спячая прыгажуня".*

*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

# У музеі Максіма Багдановіча

Упершыню ў Беларусі для мінчан і гасцей сталіцы раскрывае свае скарбніцы **музей-сядзіба Астаф'ева "Русский Парнас"**. Адкрыццё перасоўнай выставы **"Усадьба Остафьево в истории русской культуры"** адбудзецца **ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча 25 жніўня 2001 г.** Экспазіцыя выставы пазнаёміць наведвальнікаў з унікальным гісторыка-літаратурным і мемарыяльным помнікам архітэктуры эпохі класіцызму на мяжы XVIII—XIX вякоў.

Сядзібай валодалі некалькі пакаленняў князёў Вяземскіх і Шарамецевых. У канцы XIX стагоддзя сядзіба мела шматлікія і разнастайныя мастацкія калекцыі, мемарыяльныя рэчы, вялікі архіў і кніжны збор. Астаф'ева звязана з імёнамі М. Карамзіна, А. Пушкіна, П. Вяземскага, В. Жукоўскага, К. Бацюшкава, Д. Давыдава, А. Міцкевіча і іншых знакамітых гаспадароў і гасцей сядзібы. У 1899 годзе да 100-годдзя з дня нараджэння А. Пушкіна ў сядзібе быў адчынены першы ў Расіі даступны для ўсіх музей паэта.

На выставе **"Усадьба Остафьево в истории русской культуры"**, якая працягнецца адзін месяц, будуць прадстаўлены гравюры, фотаздымкі, кнігі, рукапісы, іншыя прадметы, якія даюць наведвальнікам магчымасць пазнаёміцца з адным з унікальных помнікаў культуры Расіі.

Мы чакаем вас па адрасе: **г. Мінск, вул. М. Багдановіча, 7а, Літаратурны музей Максіма Багдановіча, т. 234-42-69.**

# Душы прагныя напоўнім...

Уяўленне і асэнсаванне гісторыі беларускай культуры немагчыма па-за царквой. Царква, як вядома, заўсёды карысталася мастацтвам у сваім богаслужбовым абыходку. Творы, якія з'явіліся ў перыяд, калі мастацтва цалкам служыла рэлігіі, — *тыя творы паводле майстэрства, формы і глыбіні зместу маюць неперапаўзыдзеную каштоўнасць*. Сярод узораў — "Тройца" Андрэя Рублёва, Уладзімірская ікона Божай Маці, царкоўныя фрэскі, паэзія і форма літургічных песнаспеваў...

У галіне царкоўнай праваслаўнай музычна-пеўчай культуры сёння немагчыма аддзяліць рэлігійнае мастацтва ад свецкага. Ужо некалькі стагоддзяў на царкоўных клірасах ужываецца свецкі стыль спявання. Музычныя кампазіцыі, якія гучаць падчас набажэнства, складзеныя ў XIX стагоддзі ў стылі сентыментальнага рамантызму, выкарыстоўваюць, у асноўным, музычную форму канта, адпаведныя гарманічныя спалучэнні, свецкія банальныя меладычныя звароты з інтанацыямі "плачу". Таму ў тых праваслаўных храмах, дзе богаслужбовыя тэксты распяваюцца т. зв. "*абыходкавымі*" *напевамі*, стварaецца ўражанне тужлівага, пахавальнага спявання. Паверце, такое спяванне не мае нічога агульнага з сапраўдным праваслаўным богаслужбовым спяваннем — простым і засяроджаным, манументальным і дынамічным, надзвычай разнастайным, з уласцівай для яго найтанчэйшай пявучасцю.

Але вярнуцца да забытых напеваў сёння немагчыма. Гэтыя напевы адпавядалі светапогляду, стылю жыцця, мыслення не толькі адной асобы, а і светапогляду і стылю жыцця ўсяго грамадства. Таму ў сучасным царкоўным мастацтве спявання трэба шукаць і знаходзіць новыя формы, новыя фарбы, якія адпавядаюць узроўню сучаснага музычнага і агульнаэстэтычнага мыслення і пачуцця.

Новыя формы і фарбы знаходзіць у сваёй творчасці богаслужбовы хор мінскага Свята-Петрапаўлаўскага сабора пад кіраўніцтвам выкладчыка Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі. кампазітара Ірыны Дзянісавай. Тыя прафесіяналы, якія спяваюць у гэтым хоры, аддаюць свой талент Богу і Царкве. Богаслужбовыя песняспевы ў выкананні хору Св.-Петрапаўлаўскага сабора — *гэта прачытанне вечных ісцін вачамі сучаснага праваслаўнага музыканта*, які імкнецца да пазнання Бога, да злучэння з Богам. Філігранная тэхніка, арыгінальнае музычнае мысленне і дзівоснае аднадумства, харавое пачуццё, тонкі ансамбль адрозніваюць спяванне гэтага хору. Богаслужбовыя песняспевы ў яго выкананні робяцца глыбока асабістымі. У сканцэнтраваным перажыванні адбываецца нібы перараджэнне і пераўвасабленне як кожнага выканаўца, так і слухача.

Хор Св.-Петрапаўлаўскага сабора не толькі спявае ў час набажэнстваў. Тройчы ён выступаў на міжнародных фестывалях, пацвярджаючы высокі ўзровень беларускага музычна-пеўчага мастацтва. І ў Мінску (1999 г.), і ў Польшчы (2000 г.), і ў Вільні (2001 г.) выступленні хору атрымалі самыя высокія адзнакі спецыялістаў, высокія ўзнагароды і ўдзячнасць слухачоў.

Немагчыма не звярнуць увагу на кампазіцыі І. Дзянісавай. Яе музычна-рэлігійная творчасць — гэта той сасуд, які напаўняе боская гармонія. Вельмі цікавыя і арыгінальныя творы аўтара, і апрацоўкі старажытных распеваў. Яе музыка спалучае мудрасць сталага чалавека і бясконцы пошук духоўнай дасканаласці. А яе кіраванне дэманструе фенаменальную "спетасць": адзінае жыццё, адзінае дыханне, адзіны светапогляд. Гэта — як апошні ўздых, калі ўжо адступае ўсялякая хітрасць, няпраўда і ліслівасць і чалавек стаіць перад Хрыстом і "вочы ў вочы" спавядаецца голасам сваім у апошнім пакаянні...

Не так даўно па Беларускім тэлебачанні ў праграме "Існасць" адбылася сустрэча з праваслаўным музычна-пеўчым мастацтвам, яго сутнасцю і зместам, з творчасцю хору Св.-Петрапаўлаўскага сабора, з кампазітарскай творчасцю І. Дзянісавай. Усе гледачы атрымалі магчымасць наталіць сваю душу гармоніяй, прыгажосцю і дабрынёй.



**Ларыса ГУСТОВА,**
**выкладчык Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры**

*На здымках: хор і яго кіраўнік Ірына Дзянісава.*

# "Круглы стол" з вострымі вугламі

У мінулы чацвер у Доме прафсаюзаў на праспекце Машэрава адбыўся "круглы стол" па пытаннях рэфармавання Беларускага тэлебачання. Ладзілі тую дыскусію Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ) і прафсаюзны актыў тэлебачання. Сярод запрошаных — людзі культуры, прэса, прадстаўнікі ўрада.

Увогуле сітуацыя на Беларускім ТБ характарызавалася як заняпад. Прыгадвалася, што ў 70-х гадах наша тэлебачанне было адным з лепшых у Савецкім Саюзе. Без усялякіх скідак на "правінцыйнасць" яго можна было параўноваць з Цэнтральным тэлебачаннем, з Масквою. Масква пераносіла з Беларускага тэлебачання на ўсесаюзны тэлеэкран і рубрыкі, і цэлыя праграмы. А колькі тэлефільмаў, якія потым ішлі на ўсю краіну, рабілася ў Беларусі! Па мерках СССР 70-х гадоў Беларускае ТБ — "захад". Праўда, у сярэдзіне 80-х — пачатку 90-х, калі наша грамадства стала больш адкрытым, з'явіліся новыя крытэрыі, узнікла патрэба працаваць ужо не па савецкіх, а па сусветных стандартах...

Што ж датычыць сённяшняга дня, *дык тэлебачанне Беларусі не заўсёды* працуе на грамадскую згоду, на нацыянальную ідэю.

Святлана Алексіевіч, чый выступ быў, магчыма, самым запамінальным на "круглым стале", лічыць, што ў сённяшняй грамадска-палітычнай сітуацыі (заняпад на БТ — адна з яе праяў) *выявілася непадрыхтаванасць* народа прыняць, зразумець гістарычны выклік, няздольнасць даць адэкватны адказ. Нават культурніцкая эліта апынулася ва ўмовах, што, каб выжыць, вымушана арыентавацца на замежжа, быць канкурэнтаздольнай у вачах замежных грантадаўцаў, а не ў вачах уласнага народа. Але ці можа яна пасля гэтага называцца нацыянальнай элітай? Пісьменніца мяркуе, што ў Беларусі масавая свядомасць скажоная трагічнымі падзеямі і з'явамі савецкай гісторыі — ГУЛАГ, другая сусветная вайна, Чарнобыль, распад Савецкага Саюза, які многія ўспрынялі як разбурэнне звыклага побыту і ўсталяванай шкалы каштоўнасцяў. Абсурдна гаварыць пра ГУЛАГ і Чарнобыль як пра "звыклы побыт" — але такая наша рэчаіснасць. Грамадская свядомасць у такой ступені перагрувашчана негатыўнай інфармацыяй, што адмаўляецца прымаць новы негатыў. Спадарыня Алексіевіч лічыць, што трэба засяроджвацца не на фактах, якімі б "выбуховымі" яны ні падаваліся б прафесійнікам інфармацыйнай сферы, а "стварaць поле, пашыраць у масавай свядомасці прастору для фармавання асобы".

Юры Хашчавацкі выказаў меркаванне, што пошук сярод натоўпу асобаў альбо нават спробы выкрышталізаваць гэтых асобаў з натоўпу — *справа не вельмі плённая*. Нельга прымусіць быць асобаю. Кожны мусіць шукаць асобу ў самім сабе. Ці не кожнаму інтэлектуалу вядома сітуацыя, калі і работу, і работадаўцу ўспрымаеш без пашаны, але ўсё роўна працуеш. Бывае, што нават уцягнуты ў барацьбу, *вымушаны змагацца*, чалавек душою застаецца рабом.

Чаму на Беларускім тэлебачанні няма месца асобам? — пытаецца Юры Хашчавацкі. Таму што журналіст, які звольніўся, знойдзе сабе працу ў недзяржаўным выданні; а куды пойдзе, страціўшы працу на БТ, *рэжысёр альбо аператар?* Змяніць сітуацыю на дзяржаўным БТ можа толькі наяўнасць канкурэнтаздольных недзяржаўных каналаў. Не варта "хадзіць у народ" — трэба стварыць структуры, якія дазволяць выжыць у сённяшніх умовах эліце. Бо носьбіт культуры — эліта. Сёння БТ амаль прыватызаванае людзьмі, пастаўленымі ўладаю. З'яўленне альтэрнатыўнага аўтарскага БТ зробіць іх беспрацоўнымі жабракамі.

Прадстаўнікі палітычных партый Людміла Пеціна і Аляксандр Дабравольскі гаварылі пра тое, што вельмі цяжка шукаць пазітыўную ідэю ва ўмовах, калі яна не мае шанцаў быць увасобленаю ў жыцці, *і што шэраг важных для грамадства* тэм БТ папросту ігнаруе.

З гэтым, як ні дзіўна, згадзілася, праўда, ва ўскоснай форме, прадстаўнік камісіі Нацыянальнага сходу. Яна сказала літаральна наступнае: "Телевидение — лицо страны. И вопрос в том, что это лицо наговорит. *Можно ли с таким лицом, которое* на экране, идти в мир? Я думаю, в цивилизованный мир — нельзя". Дарэчы, у канфлікце паміж творчымі супрацоўнікамі і кіраўніцтвам ТБ яна бачыць выключна эканамічную аснову. Прысутныя не згадзіліся, нагадалі, што ім прапаноўвалі, нават *навязвалі працу на БТ, але такую*, за якую будзе сорамна перад уласнымі дзецьмі. Прафесійнік, які сябе паважае, на гэта пайсці не можа.

Прафсаюзны камітэт тэлебачання, прадстаўлены вядучымі творчымі супрацоўнікамі, патрабуе фінансавай праверкі дзейнасці кіраўніцтва БТ...

Акрамя таго, існуе патрэба ў стварэнні Грамадскай наглядальнай рады Беларускага тэлебачання. Менавіта гэтая, у склад якой мусяць увайсці паважаныя ўсёй краінаю людзі, і павінна вызначаць інфармацыйную палітыку тэлебачання.

Увогуле "круглы стол" пакінуў дваістае ўражанне. З аднаго боку, усведамленне марнасці спадзяванняў на паразуменне паміж канфліктуючымі бакамі — творчымі супрацоўнікамі і кіраўніцтвам БТ: першыя не згодзяцца працаваць ва ўмовах дыктату, другія не ведаюць іншых сродкаў кіравання, акрамя дыктату. Але сама наяўнасць творцаў з пачуццём уласнай годнасці гаворыць пра тое, што не ўсё ў нашай краіне згублена.

**П. В.**

## АБСЯГІ

### *БРЭСТЧЫНА*

## "Белпошта" — юбіляру




Рэспубліканскае дзяржаўнае аб'яднанне "Белпошта" выпусціла канверт, прысвечаны 60-годдзю 558-га авіяцыйнага рамонтнага завода, што ў Баранавічах. Прадпрыемства было заснавана на чацвёрты дзень Айчыннай вайны пад Харкавам і зрабіла вялікі ўнёсак у перамогу над Германіяй. Тады яно называлася "рухомыя авіярамонтныя майстэрні". З 1953 года прадпрыемства асталявалася на Беларусі і атрымала назву — Баранавіцкі авіяцыйны рамонтны завод, які і сёння годна нясе сваю прафесійную марку.

## Прэса за збліжэнне

У Белавежскай пушчы прайшоў Міжнародны "круглы стол" "Прэса за збліжэнне", у якім прынялі ўдзел журналісты Беларусі, Расіі, Украіны. Арганізатарамі форуму сталі Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы, Кангрэс журналістаў расійскіх СМІ, Цэнтральнае агенцтва развіцця сістэмных інтэграцыйных ініцыятыў. Па выніках сустрэчы была прынята дэкларацыя медыя-форуму, які ў далейшым павінен распрацоўваць сумесныя праекты, накіраваныя на развіццё ўзаемаадносінаў паміж былымі саюзнымі дзяржавамі.

На думку ўдзельнікаў "круглага стала", праз дзесяць гадоў пасля віскулёўскіх падзей, дзе быў скасаваны СССР, у жыцці славянскіх краін пачаўся новы этап, які вымагае новых ініцыятыў, на гэты раз па інтэграцыі эканомікі і паспалітства.

**С. К.**

### *ВІЦЕБШЧЫНА*

## У Віцебску – "Беларуская цацка"

Падчас "Славянскага базару" ў Віцебску адбылося адкрыццё выставы "Беларуская цацка", экспанаты якой прадстаўлены Беларускім саюзам майстроў народнай творчасці. Галоўная дзеючая асоба на выставе — лялька: з саломкі, дрэва, ільну, гліны.

На выставе шмат саламяных птушак і павукоў вядомай майстрыхі з Салігорска Р. Раманені. Механічных лялек-прыгажунь у беларускіх строях выставіў майстар В. Паўтаржыцкі, які працягвае справу свайго знанага дзеда.

**К. Д.**

## Полацак — Гародня

Штогод Полацкая нацыянальная гімназія ладзіць фальклорна-этнаграфічныя экспедыцыі па родным краі. На гэты раз летняя вандроўка вучняў гэтай навучальнай установы была краязнаўчага кшталту, ды не па Полаччыне, а ў Гародню.

Безумоўна, зведаць гэты цудоўны горад за чатыры дні немагчыма, але іх хапіла, каб атрымаць незабыўныя ўражанні і займець жаданне трапіць туды яшчэ раз. Стары і Новы замкі, касцёлы, сінанога, аркі і старыя двары — усё выклікала захапленне. Нёман, Барысаглебская царква на ягоным стромкім беразе, музеі Багдановіча і Ажэшкі — ды хіба ўсё пералажаш!

І галоўнае, людзі, іх стаўленне да роднага горада. Відочная розніца паміж заходнебеларускай і ўсходнебеларускай рэчаіснасцю — зразумела, да гонару першай...

Удзельнікі вандроўкі шчыра дзякавалі гарадзенцу Валеру Руселіну за распрацаваныя маршруты і экскурсіі па Гародні.

**Таццяна НЯТБАЕВА**

### *ГОМЕЛЬШЧЫНА*

## Камп'ютэр для музея

У фондах Веткаўскага музея народнай творчасці знаходзяцца тысячы унікальных экспанатаў: старадрукі, абразы, вырабы ткацтва, ганчарства і д. п. Усё гэта патрабуе пільнага ўліку, ашчаднага захавання, штодзённай прапаганды. Адным словам, без сучаснай аргтэхнікі ніяк не абысціся!

Нядаўна дэлегацыя музея наведала беларускую амбасаду ў Маскве, там жа адбылася сустрэча з прадстаўнікамі сталічнай мэрыі, якія ўручылі веткаўцам выдатны камп'ютэр, што дазволіць на больш высокім узроўні весці навуковую работу ў музеі.

**А. ШНЫПАРКОЎ**

### *ГРОДЗЕНШЧЫНА*

## Старонкі гісторыі

У нядаўна выдадзеным зборніку "Старонкі гісторыі Свіслацкага раёна" змешчаны матэрыялы навукова-практычнай краязнаўчай канферэнцыі, прысвечанай багатай гісторыі краю ад даўніх часоў да нашых дзён. Выданне пабачыла свет дзякуючы агульным намаганням райвыканкама, аддзела археалогіі Інстытута гісторыі НАН, кафедры гісторыі Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы, абласнога савета грамадскага аб'яднання "Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры". Вучоныя і краязнаўцы падрыхтавалі глыбокія даследаванні, уключаючы летапісную даўніну, аналіз першабытных помнікаў і старажытнасцяў, археалагічных і гістарычных сведчанняў пра Белавежскую пушчу, сярэднявечча.

Шэраг публікацый прысвечаны Кастусю Каліноўскаму, ягонаму брату Віктару, іх паплечніку Рамуальду Траўгуту. Не абыдзены ўвагай вядомыя грамадскія дзеячы, вучоныя, гісторыкі, воіны, спартсмены, чый лёс звязаны са Свіслаччынай.

**В. З.**

### *МІНШЧЫНА*

## Новая газета

У ліпені пабачыў свет першы нумар газеты "Обыватель и К°", якую заснаваў і выдае журналіст Яраслаў Чапля. Мяркуецца, што газета будзе распаўсюджвацца ў шасці краінах: Беларусі, Латвіі, Літве, Польшчы. Расіі ды Украіне. Чаму менавіта такая геаграфія? Як зазначае Я. Чапля, яе мэта — інфармацыйнае аб'яднанне тэрыторый, што некалі цалкам альбо часткова ўваходзілі ў Вялікае Княства Літоўскае. Гістарычныя традыцыі, сувязі паміж народамі гэтых дзяржаў, што скалaліся даўно, існуюць і зараз. І таму інфармацыйная падтрымка гэтых сувязяў будзе вельмі дарэчы.

**І. А.**

# Восеньскі настрой на пачатку жніўня

## ДАЧНАЯ РЭФЛЕКСІЯ

ЛЕТА толькі-толькі скіравала на жнівень. Але не спадае пакутлівая не толькі для гараджан спякота. Добра яшчэ, што крыху асвяжаюць дажджы. Аднак і яны маюць свой мінус — пасля навальніц наступае неверагодная прэласць і парнасць. А пры амаль стопрацэнтнай вільготнасці паветра гэта мудрэй, чым у нацепленай лазні. Праедзеш у ранішнім аўтобсе ці тралейбусе — і на палок не захочацца.

Адно збавенне — дача. Там і ратуюцца запараныя мінчукі. Хто кожны вечар, хто пятнічна-выхаднымі наездамі. Хоць дажджавітасць і тут даймае, ды ўсё ж дачная разняволенасць гэта не гарадская гальштучна-пінжаковая зашнураванасць.

Праліўся чарговы спорны пасляабедзенны дождж, і перапыніліся мусовыя дачныя памідорна-агуркова-парэчкавыя клопаты не да рэшты рассяляненых мінчукоў. Найбольш актыўныя пачалі кучкавацца — хто з разлікам на падкіднога, хто на шашлык, а некаторыя проста так — каб не быць аднаму. Таксама свойскія заняткі.

Але вось сонца, натомлены віноўнік усіх сёлетніх пагодных катаклізмаў, скацілася, нібыта ўцякаючы і хаваючыся ад вінавайцаў, за далёкі падпалены ім бор. А ўзамен яшчэ доўга гарачым прысакам ірдзяцца берагі счарнелых хмар і прасветленых воблакаў, ажно пакуль вечарова—начны попел не прысыпле іх, не ператворыць іхняе ірдзенне ў затухаючае свячэнне вуголля, якое працяглы час пасля заходу сонца падфарбоўвае небасхіл сваім мігаценнем.

Ну рыхтык старадаўнія іконы альбо біблейскія малюнкі. Здаецца, і на самай справе вось-вось з-за папяляста-счырванелага воблака з'явіцца і на пругкіх аблачынках-выцінанках спусціцца на зямлю Мікола-цудатворац, каб даведацца, ці не патрэбна сённяшнім беларусам ягонае заступніцтва.

А прырода нібыта і сапраўды рыхтуецца да сустрэчы святога ўгодніка.

У адсырэлай ад дажджоў і здабрэлай ад парнасці траве ажно заходзяцца конікі. Іхняе стракатанне цягам усёй ночы чуецца праз разнасцежаныя дачныя вокны. Цэлы тыдзень пасля — да наступнае пятніцы яно будзе натуральным чынам, як некалішняе ціканне ходзікаў у вясковай хаце, несціхана гучаць у вушах задыханай гарадской ноччу.

Літаральна на вачах дзеецца сапраўдны цуд. Набрынялая вільгаццю зямля пачынае дыхаць. Яна дыміцца. Ейны куродым становіцца ўсё больш імпэтным. Аж пакуль з лагчынак, што бліжэй да тутэйшых балацявін, якія, як пацеркі, нанізаны на шнурочак схаванай у алешніку і вербалозе рачулкі, гэтае кудзелістае дыханне астываючай зямлі не ператвараецца спачатку ў танюсенькую і рэдзенькую, як вэлюм, палосачку туману. Гэтым імпазантным вэлюмам атуляюцца спачатку высокія ладыгі пахкага асоту, пасля нізкія кусты, адзінокія алешынкі. У гэтай святочнай намітцы, здаецца, ажно адбіваюцца тыя ірдзістыя і попельна—вугольныя абрысы паднябесных воблакаў.

Дыханне зямлі не перапыняецца, не сціхае. І вось ужо тая нясмелая туманковая палосачка становіцца сапраўдным густым туманам. Але дзіўна — яна нібыта намагнічаная: адзін полюс магніта як бы ўвесь час адштурхоўвае яе ад зямлі, а другі не адпускае. Так і вісіць, быццам у невырашальным одуме: ці то ўзняцца вышэй, ці то апусціцца на волкую зямлю.

У гэтвым раскатаным усцяж пакручастай рачулкі сувоі выбеленага палатна ўсё набывае дзівосныя абрысы. Дрэвы і кусты як бы нехта перацяў пасярэдзіне. Бачны іхнія камялькі—ножкі, якія ўсё больш зліваюцца ў суцэльную чорную паласу, і выразнае, як у акенцы батлейкі альбо ў святлістай ад запаленых свечак вялікай каляднай зорцы, якая з вясковых вуліц перабралася нарэшце і на гарадскі асфальт, голлейка вершалін. А пасярэдзіне іх хавае—атуляе белая палоска туману. Толькі сям—там яе падпіраюць, як бы і трымаюць над зямлёй, гэткія ж белыя ствалы бярозак.

Ці мо гэта лета, беручыся на восень, сфастрыгавала сабе такі нязвыклы ўбор? І пакуль яшчэ не хапае матэрыі — сапраўдных восеньскіх тумапоў, прымярае міні—сукеначку, гэткі пераходны летне—асенні падлеткаввы фасон.

Але што гэта — няўжо алешнікава—вербалозныя камялькі—ножкі пачалі рухацца, уцякаючы ад учэпістай восені? Ці мо толькі цяпер праяўляюцца пасля спёкавыя галюцынацыі?

Аказваецца, падвіслая туманная плёнка выкінула гэткі жарт з тутэйшымі коньмі, якіх пажылыя дзядзькі з суседняй вёскі вывелі на начны папас.

Вунь і галасы іхнія чуваць між стракатання тых, травяных конікаў. А коні, нібыта спраўджваючы сваю прысутнасць тут, раптоўна зафыркалі, заіржалі — пачаргова, адзін за адным. І не зразумець, ці то іх тут цэлы табун, ці то баравое рэха шматкроць памнажае іхнюю існасць.

Так і паядналіся яны на балоцістым поплаве — няўтомныя конікі—стракатуны і нястомныя працаўнікі коні, кожны са сваёй апазнавальнай песняй.

А паветра над волкім поплавам і сапраўды аддае восенню. Насуперак летняй дзённай спёцы, насуперак перунова—грымотнай і высвечанай маланкавымі сполахамі—бляскамі навальніцы вечаровая пасвяжэласць прымушае сцепануць плечукамі..

Патухлыя нябесныя воблакі зліліся ў адзін цёмны покрыў, які атуляе набрынялую не толькі дажджамі, а і ўраджаем зямлю. Ды няўзнак яго пранізала мігценне зоркі—першынца. Але неўзабаве гэтую мігатлівую адзіноту зліквідавалі іншыя ліхтарыкі—вочкі. І вось ужо ўвесь раптоўна падвышаны нябесны купал засвяціўся мноствам пульсуючых светлячкоў. Яны нібыта падміргваюць людзям, абрысы якіх частавата бачацца праз разнасцежаныя і прыкрытыя фіранкамі падстрэшна—мансардавыя вокны дач.

Добра, што блукае па зямлі гэтая сцямнелая дачная ноч: каб не забыўся гараджанін, што ёсць на небе зорачкі—знічкі, каб не адвык падымаць вочы ўгору. Бо з асветленых гарадскіх вуліц зоркі нябачнымі застаюцца.

Але на небе адбываецца нешта дзіўнае — чарговая неспадзянка. Адна з тых мігатлівіц пачынае рухацца. Няспешна, упэўнена, прабіўшы хмарна—насуплены покрыў на захадзе, яна праплывае над галавой і кіруецца на ўсход. Высока, але ніжэй за зоркі. Напэўна, міжзорны касмічны дом, бо на мігатліва каляровыя агеньчыкі самалёта ніяк не падобна. А мо гэта схаванае няўтомнае сонца паслала свайго ганца, каб даведаўся, ці ўсё спакойна і дабрадзейна там, скуль яно мае з'явіцца заўтра раным—ранелька, на дасвецці.

А пакуль ледзь не з таго будучага ранішняга сонцазапачаткавання выкаціўся зружавела—чырванаваты месяц. Колер ягоны такі, нібыта ён дужа загарэў падчас сёлетняга санцапёку, бо і сапраўды цікаўны маладзічок, пакуль стаў паўнатварым месяцам, часцяком выскокваў на неба, дзе яшчэ ва ўсю раскашавала сонца. Прымружана-млявым паглядам азірае ён бялесае туманістае наваколле і, здаецца, прасветлена ўсміхаецца праз наміткавую імжу: ну, нарэшце восень адважыцца нагадаць пра сябе сваёй выбеленай палатнянай пасцілкай.

А тут і начныя заўсёднікі з'явіліся. Адарваныя ад гарадской мітусні і вырваныя з дыскатэчнага грукату, хлопцы і дзяўчаты, здаецца, ажно захлібнуліся конікавай стракатлівасцю, зоркамігатлівай начной супакоенасцю. Здаецца, чуецца ім, як у наструнелай цішыні жыццятворным сокам наліваюцца крамяныя яблыкі ў дачных садах—палісадах. А набрынялы цяжарам белы наліў і сапраўды час ад часу шпокае па лапушыстым лісці пакуль што негалавастай яшчэ капусты. Спачатку ацiхла паўзіраліся дзеці асфальту ў перакулены ў азярцо зорны купал. Пасля на ягоным беражку акурат на самым памежжы дзвюх стыхій: вады і глыбеючага ў ёй неба, расклалі цяпельца. Удыхнулі нязведанага дагэтуль кастровага дымку і п'янкою ад першасных і натуральных згукаў і бачанняў стала галава. Нязвыклымі да гэтага занятку рукамі наскрылялі сала, нанізалі на лазовы пруцік, і вось ужо пахка закапала ў агонь, засквірчэла яно, нястрымна круцячы ў носе, наганяючы апетыт. А ў маладых душах абуджаецца, мацуецца і спеліцца тое спаконвечнае і неспатольнае адчуванне знітаванасці з прыродай, з зямлёй, са сваім краем, якое робіць чалавека грамадзянінам і гаспадаром.

Нехта раптоўна шчоўкнуў выключальнікам, і музычны грукат здзічэлым тут войканнем разарваў чуйна—насычаную цішыню. Але на аматара папсы зашыкалі, і музычныя дэцыбелы сціхлі, не набраўшы патрэбнай моцы.

Хтосьці крануў гітарныя струны, пасля перачакаў, ці не перапыняць і яго. Не загаманілі.

Струны загучалі больш упэўнена. Няўзнак прыцішаная мелодыя разам з вогнішчавым дымком памкнулася ўгору, па бясконцым туманным ручніку паплыла цераз азярцо да ракі, а разам з ёй — некуды далёка, мо туды, ва ўсё больш бязлюдныя вёскі і мястэчкі бацькоў і дзядоў гэтых маладзёнаў, дзе песня нарадзілася і стала на крыло:

***Ой, рэчанька—рэчанька,***
***Чаму ж ты няпоўная***

Не забыліся, аказваецца, гарадскія акселераты таго генетычнага спрадвечнага, спадкаемцамі чаго нават неўсвядомлена з'яўляюцца, і што жыве і жыцьме ў іхніх душах і душах іхніх нашчадкаў, пакуль будзе слацца над беларускай зямлёй кужэльны туман. Пакуль трымцівыя зоркі будуць прыхарошвацца, пазіраючы ў чыстыя яе азёры, ставы, рэкі, рэчкі і рачулкі. Пакуль на густатраўны поплаў незаўважна будзе сеяцца халодна—бліскучымі кропелькамі раса, як збаўча—выратавальнае акрапленне святой вадой з нябеснага keліха. Пакуль будуць выступаць ачышчальныя слёзы руплівіцы—зямлі — як пакаянне за нашыя грахі і непамыснасць многіх нашых дзеяў.

І каб не раптоўны грукат, узмоцнены начной цішынёй, вельмі няблізкай адгэтуль электрычкі, можна было б падумаць, што ва ўсім сусвеце нікога больш няма, апроч гэтых маладзёнаў, апроч сцішэлай летняй жнівеньскай ночы, якая пахне не толькі спелай збажынай, а і далекаватай яшчэ восенню. Акрамя той рачулкі, што пад тумановай плёнкай точыцца—мкне некуды ўдалеч, акрамя гэтай рэчанькі, якая чамусьці не можа "поўнай быць, з беражкамі роўнай плыць".

Мне ж нечакана згадалася загадкава—велічная "Сіксцінская Мадонна", рэпрадукцыя якой некалі часцяком з'яўлялася на кніжна—часопісных старонках. Толькі што ўбачанае падалося падобным на сюжэт, які таленавіта ўвасоблены амаль пяць стагоддзяў таму знакамітым італьянскім жывапісцам і архітэктарам Рафаэлем і які да скону свету будзе хваляваць сваёй узвышанасцю, таямнічасцю і спагадлівасцю Вечнасці да зямлян.

Здаецца, сёння і тут прырода гэтаксама, як на карціне Рафаэля, ахвотна расхінула свае зялёналістыя занавескі і праз гэтую разнасцежаную таямнічасць вось—вось ступіць на пульхныя воблакі Нябесная Царыца — дабрадзейная прыснадзева Марыя са сваім святым немаўляткам Збавіцелем на руках. З'явіцца нам, каб нагадаць пра нешта больш важнае і значнае, больш важкае і вызначальнае, чым наша штохвілінная мітусня. Прыйдзе, каб падтрымаць абнадзеенасць нашага чакання.

На гэткі нябесны цуд, здаецца, зачаравана—здзіўлена пазіраюць і тутэйшыя маладзёны — як прыціхлыя рафаэлеўскія але бяскрылыя анёлы, акрыленыя раптоўным разуменнем сваёй далучанасці да вечнага, адвечнага і спаконвечнага.

А чырванашчокі, як яблыкі ў тутэйшых садах, месяц загадкава ўзмахнуў наміткай—хмаркай, затуліўшы задуменна—праніклівы погляд Нябеснай Мадонны, і паплыў—пакаціўся між зор. Як той касмічны карабель, толькі ў супрацьлеглым напрамку. Не заўважыў круглашчокі таўстун, як на самую нябесную вяршыню забраўся. А заселены людзьмі зоркалёт ужо насустрач яму ляціць. Так і давядзецца ім шматкроць сустракацца гэтай летняй ноччу, якая нагадвае пра неадступнасць восені, аж пакуль маладзенькае сонца не развядзе іхнія шляхі—дарожкі.

Калі ж пільна прыгледзецца да зорак, трохі прымружыўшы вочы, дык можа падацца, што бялесыя кудзелістыя палосы—праменні балотна—паплаўнога туману дасягнулі нябеснай вышыні. А мо гэта чароўныя сцежкі, апушчаныя звысоку, па якіх няўрымслівы чалавек—клапатлівец можа ўзняцца на жаданае і недасягальнае сёмае неба, дзе не трэба будзе высільвацца да знямогі, бясконца рупіцца пра хлеб надзённы?

Але расплюшчыш вочы, і знікнуць прывідныя сцежкі, зноў робячы недасягальным тое зваблівае і невядома дзе схаванае поклічнае сёмае неба.

А калі зніклі пуцяводныя сцежкі, то не ўздымецца назад у свае нябесныя шаты Мікалай Цудатворац. Застанецца тут, з намі, каб пераканаць зняверaных, наталіць пытлівых, умацаваць моцных. Каб паверылі мы, што на Беларусі Бог жыве. І сталіся вартымі Яго.

**Анатоль БУТЭВІЧ**

**P. S. Гэтак рэфлексавалася самай першай жнівеньскай суботай у адной з падмінскіх дачных суполак, дзе драўляныя дамочкі амаль спрэс хаваюцца ў засені буйнаплодных яблынь і груш. Дык тое, напэўна, мог бы адчуць кожны неабыякавы да сябе і акаляючага наваколля мінчук альбо жыхар іншага багатага на дачнае акружэнне горада.**

**Але яшчэ не позна. Заўтра ж — субота...**

**А. Б.**



*Апошняя прымерка — хутка ў школу.*

## "Три талера"




**У юнага чытача вялікай папулярнасцю карыстаецца прыгодніцкая літаратура. Канечне, буму, што быў раней, цяпер не назіраецца, але ў тых хлопчыкаў і дзяўчынак, хто не толькі бавіць час ля экрана тэлевізара, але і з ахвотай зазірае ў кнігу, падобныя творы, у параўнанні з іншымі, займаюць асаблівае месца. Яно і не дзіўна. Аповесць ці раман з напружаным, дынамічным сюжэтам, з нечаканымі калізіямі, дзе ўсё адбываецца на мяжы магчымага, а нярэдка і, здавалася б, немагчымае становіцца явай, не могуць не прыцягваць увагу. Іншая рэч, што ў гэтым жанры па—сапраўднаму мастацкіх твораў не шмат. Яшчэ горшае становішча ў беларускай літаратуры.**

**Пісьменнікаў, якія працавалі ў ім (маюцца на ўвазе не "дарослыя" творы), можна пералічыць па пальцах, згадаўшы найперш класіка беларускай дзіцячай літаратуры Янку Маўра. А яшчэ адзначыўшы, што дзеці ахвотна чытаюць і асобныя творы Уладзіміра Караткевіча. Тым больш прыемна, што сярод малады літаратараў знаходзяцца аўтары, якія разумеюць значнасць прыгодніцкага жанру. У шэрагу іх — і Андрэй Федарэнка. Не навічок у літаратуры "дарослай", ён у дзіцячай літаратуры некалькі гадоў назад дэбютаваў аповесцю "Шчарбаты талер". У гэтага твора, апублікаванага спачатку на старонках часопіса "Маладосць", шчаслівы лёс. Аповесць выйшла асобнай кнігай у выдавецтве "Юнацтва" і, дарэчы, маланкава хутка разышлася. У перакладзе на рускую мову публікавалася ў газеце "Зорька".**

**Няменш прыемна і тое, што да "Шчарбатага талера" з паразуменнем паставіліся тыя, хто складае школьныя праграмы па беларускай літаратуры. Аповесць А. Федарэнкі ўключана ў кнігу для пазакласнага чытання ў пятым класе "Ветразі". А не так даўно "Шчарбаты талер" выйшаў, калі можна так сказаць, і на "эсэндэўскую" арбіту. Пад назвай "Тры талеры" аповесць пабачыла свет у недзяржаўным выдавецтве "Современный литератор" (выпушчана пры ўдзеле ТАА "Харвест"). Трэба сказаць, што "Современный литератор" (як і "Харвест") — выдавецкія структуры, якія карыстаюцца вялікай папулярнасцю, маюць чытачоў у многіх краінах. У сваю чаргу пісьменнікі лічаць гонарам надрукавацца ў іх. Нядаўна гэтымі выдавецтвамі пачаў ажыццяўляцца новы праект. Нарадзілася серыя "Детектив для девочек и мальчиков". А. Федарэнка — першы беларускі пісьменнік, каго запрасілі ўдзельнічаць у згаданай серыі. Думаецца, выбар на ім спыніўся невыпадкова. Сёння А. Федарэнка — найбольш таленавіты (і перспектыўны) празаік малодшага пакалення, якое паступова становіцца сярэднім, у беларускай літаратуры. Ён хораша зарэкамендаваў сябе першымі апавяданнямі, пацвердзіў аб сабе думку як аб літаратары надзіва псіхалагічна глыбокімі аповесцямі. А яшчэ, што таксама немалаважна, А. Федарэнка смела абжывае новыя тэматычныя пласты, не баіцца ступаць па літаратурным цаліку, што, у прыватнасці, засведчыла яго аповесць "Нічые", змешчаная ў трэцім нумары часопіса "Полымя" за сёлетні год, у якой пасвойму асэнсоўваюцца падзеі Слуцкага паўстання. Зыходзячы з вышэйсказанага, пісьменніку такога таленту грэшна "замыкацца" толькі на беларускамоўнай чытацкай аўдыторыі. Гэта першымі зразумелі ў далёкім замежжы, калі некалькі гадоў назад апавяданне А. Федарэнкі "Бляха" ў перакладзе на англійскую мову з'явілася ў аўтарытэтным амерыканскім часопісе "Ікарус". Кніга "Три талера", верагодней за ўсё, будзе распаўсюджвацца ў Расіі, а гэта дазволіць тамашнім юным чытачам лепш зразумець Беларусь і беларусаў. У падобным сцвярджэнні нацяжкі няма. Хоць аповесць і прыгодніцкая, але ў ёй узнімаюцца і важныя, надзённыя праблемы. А. Федарэнка, ставячы сваіх персанажаў у незвычайныя сітуацыі, адначасова не абыходзіць праблем патрыятызму, любові да Бацькаўшчыны, глыбокага ведання сваёй гісторыі. А паколькі "Шчарбаты талер" сам перакладаў, імкнуўся асобныя моманты ўдакладніць з арыенціроўкай на новага чытача. І гэта яму ўдалося паспяхова ажыццявіць, бо хто, як не сам аўтар, найлепш ведае ўласны твор. Дый, калі знаёмішся з перакладам, адчуваеш добрае веданне А. Федарэнкам як беларускай, так і рускай моваў. Таму і гучыць "Шчарбаты талер" у якасці "Трёх талеров" так натуральна, не адчуваецца той моўнай каструбаватасці, якая нярэдка заўважаецца, калі ў якасці перакладчыкаў выступаюць людзі, якія толькі слепа прытрымліваюцца арыгінала.**

**Міхась ГЕНЬКА**

# Басаནож па старых дарогах...

Басаནож па старых дарогах...

Аднаўленне напаўзабытых старонак нацыянальнай гісторыі —справа ўдзячная заўсёды, а адшукванне прозвішчаў тых, хто, знаходзячыся далёка ад роднай зямлі, услаўляючы сваю новую радзіму, станавіўся сусветнавядомым і пры гэтым лічыў сябе спрадвечным беларусам, — удзячнейшая яшчэ болей. Вядома ж, гэта надзвычай карпатлівая праца, бо звесткі даводзіцца адшукваць па крупінках, карыстацца падшыўкамі старых часопісаў і газет, якія цудам захаваліся да нашага часу, параўноўваць даты і лічбы, справаздачы і каштарысы адміністрацыйных данясенняў, высочваць адрозненні ў геаграфічных атласах і картах, і радавацца, калі сярод шматлікіх прозвішчаў ці назваў знаходзіцца згадванне пра тых, каго шукаеш. Пісьменнік, які займаецца вывучэннем маладаследаваных фактаў з далёкага ці не зусім мінулага сваіх мясцін, называецца краязнаўцам. Апошнім часам краязнаўства сягнула на новую для сябе вышыню. І ў многім дапамог у гэтым Алесь Марціновіч і яго новая кніга "Элегіі забытых дарог".

Разгарнуўшы кнігу, адразу ўспомніў славутыя радкі Якуба Коласа, якія датычыліся, праўда, чалавека зямлі, таго, хто не імкнуўся ні ў якім разе ад яе адарвацца, — Міхала: "разы са два схадзіў у прусы, куды не трапіць беларусы...". Але ж гэта пісаў паэт у "Новай зямлі" пра звычайнага селяніна—земляроба, які марыў не пра нязведаныя далячыні, а пра тое, каб прыдбаць надзел ураджайнага чарназёму і праз гэта "выпутацца з панскіх пут". Тым не меней, нават гэты чалавек многае зведаў, многае пабачыў, апынуўшыся занадта далёка ад роднага кута, а што ўжо застаецца гаварыць пра тых, каго выводзіць галоўнымі героямі сваіх элегій (дарэчы, вельмі ўдалае вызначэнне) А. Марціновіч.

Пачынаючы з легендарнага Перасвета, які выехаў на двубой з Чалібеем перад самым пачаткам Кулікоўскай бітвы, пісьменнік сцвярджае адназначнае — беларусы ніколі не ўцякалі панічна перад ворагамі, не паказвалі задарма свае спіны, а бліся, сустракалі смяротную небяспеку тварам да твару. Таму і было ў нас гэтулькі многа шляхціцаў, што свае шляхецтва яны здабывалі—заваёўвалі у бітвах. Не мелі тыя заслужаныя ваяры многа багацця ды земляў, але зброя заўсёды была пры іх і валодалі яны ёю па-майстэрску. Аўтар ніколі не забываецца пра гэта, хоць, праўда, не надта пераканаўча тлумачыць, чаму ж іменна ўраджэнец беларускай зямлі — Перасвет, які да пострыгу быў бранскім баярынам і меў свецкае імя Аляксандр, выехаў на паядынак з Чалібеем. Сцверджанне А. Марціновіча такое: "Супраць Чалібея Перасвет выступіў па ўласным жаданні, бо зразумеў, што не знойдзецца іншых ахвотнікаў супрацьстаяць яму — усе былі напалоханы не толькі ваяўнічасцю Чалібея, а і яго волатаўскім выглядам". Але ж магло быць і іншае — упэўненасць у сваім вайсковым майстэрстве, асабліва ў паядынках адзін на адзін, або гэткая ж самая вялізная фізічная сіла. У дружыне Дз. Данскога было нямала воінаў-дружыннікаў, а гэта ж тыя самыя прафесіяналы, якія ў любым выпадку павінны былі выконваць загады, не спасылаючыся на тое, страшна ім ці не. Гэтую сітуацыю А. Марціновіч проста не пралічыў да канца. Рамантызаваная ацэнка — гэта адно, а рэальныя факты — зусім іншае. На жаль, не выключана, у дадзеным выпадку, што паходжанне каранёў Івана Перасветава ад асілка Перасвета ў многім магло быць чыста легендарным, бо сваяцтва такое пацвярджалася не архіўнымі ці летапіснымі дадзенымі, а вусным сведчаннем самога І. Перасветава.

Вельмі хораша пісьменнік піша пра Ю. Далгушына — "литовского полонника", які, трапіўшы ў палон пры аблозе Полацка Іванам Грозным, стаў служыць новай айчыне і праславіўся вывучэннем Паўночных земляў, дзе пракладваў новыя шляхі, забіраўся з невялікімі атрадамі ў некранутыя землі, якія яшчэ ў поўным сэнсе гэтага слова "нікому не належалі". Толькі і тут нехк не надта ўжо пераканаўча гучыць думка: "Як чалавек смелы, валявы, ён знаходжанне ў турме лічыў абразай, а тут, каб служыць дзяржаве, якая з'яўлялася ворагам Бацькаўшчыны, нічога ганебнага не бачыў". Магчыма, перад Ю. Далгушыным проста не было іншага выйсця — ці служыш верай і праўдай новаму валадару, ці... смерць. Неабходна ўлічваць і бесчалавечныя, жорсткія адносіны ў перыяд Сярэднявечча да палоннікаў. Воіны наперад ведалі, што чакае іх у такім выпадку, таму і ратаваліся, як толькі маглі. Нам здаецца, што і выказванне "тыя ж, хто прысягаў рускаму цару, назаўсёды развітваўся з Радзімай. Паводле тагачасных звычаяў, ніякіх надзей на вяртанне дамоў, няхай і праз шмат гадоў, не было..." крыху нацягнутае. Дастаткова было толькі дачакацца зручнага выпадку. Іншая справа — здраднікі, ім і на самай справе не было ўжо зваротнай дарогі.

Там жа, у Расіі, раскрыўся талент даследчыка Івана Казырэўскага. Ён да скону свайго жыцця шчыраваў на Камчатцы. А. Марціновіч правільна адзначае, што сапраўднаму працаўніку, няўрымсліваму першапраходцу, наканавана не толькі слава і ўсеагульнае прызнанне, але і хлусня, зайздрасць і ўсемагчымыя намовы таксама. Вось і з Іванам Пятровічам так атрымалася: "Аднак не дрэмалі і нядобразычліўцы. Зноў усплыла справа ад забойстве Атласава. Чарговы раз апынуўся за кратамі. Як ні даказваў невіноўнасць, ніхто і слухаць не хацеў. Нарэшце, каб разабрацца ў сутнасці справы, вырашылі запатрабаваць з Якуцка пэўныя дакументы. Яны прыйшлі толькі праз тры гады, калі Івана Пятровіча не было ў жывых..."

Дзмітрый Паўлуцкі абессмяроціў сваё імя тым, што дзякуючы яму руская ўпершыню ступілі на зямлю Аляскі. У гэтай элегіі пісьменнік гаворыць пра тое, што выхадзец з беларускіх земляў быў надзвычай жорсткім і бязлітасным у адносінах да мясцовых жыхароў. Ён пастаянна ваяваў, пакідаў пасля сябе шматлікія трупы. Але ж А. Марціновіч не забываецца падкрэсліць і тое, што час быў такі і дзейнічаць там даводзілася па прынцыпе, калі не ты заб'еш, то пазбавяць жыцця цябе. Да таго ж, даводзілася проста ісці шляхам запалохвання, каб тым, хто прыйдзе следам, было значна прасцей.

Да даследчыкаў нязведаных мясцін, "белых плямін" на геаграфічных картах адносім і Іосіфа Ходзьку, які займаўся вывучэннем Арарацкіх вышыняў, а працаглы час вёў тапаграфічныя здымкі мясцовасці, гэтакія неабходныя для вядзення ўдалых ваенных дзеянняў супраць туркаў, горцаў і іншых знешніх і ўнутраных ворагаў Расійскай імперыі. Даслужыўся да звання генерал-лейтэнанта, быў узнагароджаны шматлікімі ордэнамі, як вайсковымі, так і па грамадзянскім ведамстве.

Выхадцы з Беларусі праславілі сябе не толькі на палях баёў, дзе вырашалася, хто пераможа ў нейкай канкрэтнай бітве, так бы мовіць, лакальнай, але і там, дзе, па сцверджаннях А. Марціновіча, вырашаўся лёс усяго славянскага свету. Нездарма ён распавядае нам пра генералаў царскай арміі — Міхаіла Чарняева і Іосіфа Гурку. Гэтыя людзі ўвекавечылі сябе тым, што змагаліся на Балканах супраць туркаў. І розніца была вялікая ў тым, што першы з іх, хаваючыся за чужым пашпартам, вымушаны быў самастойна пераходзіць мяжу, каб узначаліць народна-вызваленчы рух сербаў, а другі вёў рэгулярныя войскі, каб прагнаць туркаў з балгарскіх земляў. Абодвух клікалі ў бой гонар і сумленне, імкненне змагацца за волю іншых, а ў выніку... У выніку — адзін Іосіф Гурка — стаў нацыянальным героем балгарскага народа, а другі, Міхаіл Чарняеў — быў бязлітасна высмеяны за паражэнне ў сербска-турэцкай вайне М. Салтыковым-Шчадрыным у "Сучаснай ідыліі" пад здзеклівым прозвішчам Палкана Самсоныча Радзедзі. Рускі пісьменнік не браў у разлік нават тое, што М. Чарняеў змагаўся на баку паўстанцаў, колькасць якіх была намнога меншай за турэцкае войска. Гаворачы пра тое, у якіх умовах салдатам І. Гуркі даводзілася пераходзіць Балканы, А. Марціновіч крыху згушчае фарбы, бо ж надта непераканаўча гучаць словы: "Слязінкі ж, не паспеўшы збегчы кропелькамі па шчацэ,

*Алесь Марціновіч. "Элегіі забытых дарог". Мн., "Полымя", 2000.*

УРАЖАННЕ

# Мінчанін. Сучаснік Пушкіна

***Не сумняваюся: калі б Уладзімір Бобрыкаў, патомны дваранін, быў у Пецярбурзе ў той дзень, калі палкі дзекабрыстаў сталі ля Сената, ён бы абавязкова апынуўся на той плошчы. Прыйшоў бы на яе не таму, што было проста цікава, а таму, што такі ўжо ён ёсць — чалавек, які заўсёды прагне волі. У творчасці — у тым ліку.***

*На рассвете полки*
*развернут от Синода к Сенату,*
*Как четыре строки, —*
*Так сказал гражданин и поэт.*
*Ради вашей любви*
*Я лицом повернулся к закату,*
*А иного пути*
*На Сенатской мне площади нет.*

Я знаёмы з Уладзімірам гадоў з дваццаць і меў магчымасць быць сведкам яго нага надзвычай пакручастага творчага шляху. Неймаверна таварыскі, як кажуць, — цэнтр кожнай кампаніі, ён быў здольны прысутнічаць адначасова, здаецца, паўсюль. Па-свойску яго называлі проста: Бабёр. Але ў той знешне прасцецкай мянушцы адбілася адначасова і пачцівасць да яго най неспакойнай асобы: усе адчувалі, што Бобрыкаў — гэта індывідуальнасць, а таму і прымалі яго такім, які ён ёсць. Літаральна з усімі плюсамі і мінусамі. Шчыра кажучы, хапала і тых, і другіх...

Спачатку я пазнаёміўся з ягонымі песнямі. Такое ўражанне, што тады мала хто задумваўся над тым, што аўтарская песня не магла існаваць без уласнаручна напісаных вершаў. Вершы ж ягоныя прыйшлі да публікі значна пазней, праз самвыдат, хоць падчас канцэртаў ён часта многае чытаў. Ды ўсё адно слухаць ішлі песні. Тым не менш менавіта паэзія Бобрыкава і раскрывае яго як творцу найбольш поўна.

Я невыпадкова згадаў дзекабрыстаў. Бо першае, што кідаецца ў вочы, — гэта ягоная ўласная, выразная прыналежнасць (па духу, сэнсе, змесце вершаў, нарэшце — па чыста паэтычных тэхналогіях) да паэтаў пушкінскай эпохі, класічнай рускай паэзіі наогул. Тым часам як у песнях ён, безумоўна, працягваў у тым ліку традыцыі Галіча і Высоцкага (адзін з ягоных вершаў адрасаваны менавіта гэтым двум паэтам). Але ў вершах, апрача вядомых яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя шліфаваных памераў, рытму, ён надзвычай часта і не хаваючы таго звяртаецца да паэтаў таго часу. Безумоўна, адзін з лепшых ягоных вершаў (і песень, дарэчы, таксама) — прысвячэнне Чаадаеву:

*Слышны не наши имена*
*В привыкшей ко всему Отчизне.*
*Нет, не для нас пришла весна,*
*Не нам здесь радоваться жизни.*
*И не для нас сады цветут,*
*Порывы наши отцветают.*
*Здесь приспособившись живут,*
*А не смирившись, погибают.*

Ці вось гэтыя радкі, нібыта амаль слова ў слова спісаныя з чарнавікоў якога з нясконччаных твораў Аляксандра Сяргеевіча:

***Ночь с буквы началась заглавной.***
***Спала Наталья Николавна.***
***Все начиналось с прописной —***
***Поэт и мой двойник по думам —***
***Сказал, открыв глаза от шума:***
***"Все возрождается весной".***

Але вось што асмелюся замест самога Уладзіміра Бобрыкава патлумачыць. Вобраз Русі, які так часта сустракаецца ў ягоных вершах, не ёсць вобраз такі ўжо канкрэтны. Не варта забываць, што нарадзіўся ён у 1955 годзе, а таму СССР для яго — краіна наогул не містычная, не прывідная, хоць уласна СССР ён не цярпеў. Зрэшты, і Саюз яго таксама. Нарадзіўся б раней — напэўна, у лепшым выпадку трапіў бы ў прымусовую эміграцыю. Вось чаму "потерявший себя дворянин" заўсёды ўспрымае Расію (у межах Саюза) своеасаблівай крайнай—схованкай, дзе шануюць годнасць, вернасць ідэалам і дадзенаму слову, дзе сумленне заўсёды крочыць поруч з учынкам.

***Погибающему за свободу,***
***Утопившему совесть в крови,***
***Потерявшему веру народу***
***Я хочу объясниться в любви.***
***Неспокойной и странной***
***любовью***
***Я люблю свой великий народ,***
***Искупивший слезами и кровью***
***Неизбежный семнадцатый год.***

***Не забуду, с какого здесь года***
***Содержали Россию во мгле.***

хутка замярзалі, утвараючы, няхай і тонкі, ледзяны панцыр". Зразумела імкненне аўтара стварыць рэальныя абставіны горнага надвор'я, але ж...

Многа ўвагі ў сваіх "Элегіях забытых дарог" А. Марціновіч удзяляе даследчыкам старажытнай літаратуры і мастацтва, мовазнаўцам, літаратарам і фалькларыстам. Сярод іх мы можам згадаць К. Касовіча і М. Кутаргу, А. Пальмбаха і К. Каганца, а таксама П. Шпілеўскага.

Спынімся больш падрабязна на жыццяпісе П. Шпілеўскага. Ён пададзены ў жанры своеасаблівага эсэ, падзеі ў якім разгортваюцца ў асноўным вакол паштовай станцыі ў Сіняўцы. Хто добра знаёмы з творчасцю гэтага беларускага этнографа і фальклярыста, дык той адразу ж можа ўпікнуць А. Марціновіча ў адвольным пераказе адпаведнага ўрыўка з "Путешествий по Полесью и Белорусскому краю". Проста тут аўтар павеў гаворку нібыта ад самога П. Шпілеўскага. Такі прыём значна ажывіў твор, але, з другога боку, нібы разбіў яго на дзве палавіны — тую, якая ідзе ад самога фальклярыста, і тую, якая сыходзіць ад А. Марціновіча. Ствараецца ўражанне, што наш сучаснік здолеў перанесціся ў часе на паўтара стагоддзя назад, перадаў каларыт тагачаснага мястэчка і ягоных жыхароў, нават папрысутнічаў на традыцыйных гулянках. Ён так і адзначае: "Але самае цікавае чакалася наперадзе, калі пачалося народнае гулянне. З частушкамі (падкрэслена мной. — **А. Н.**), песнямі, танцамі" (с. 226). Далей таксама чытаем: "Пастаянна знаходзіліся завадатары, якія арганізоўвалі скокі, што змяняліся песнямі, частушкамі (падкрэслена мной. — **А. Н.**)" (с. 234). Мне не паверылася, што гэта А. Марціновіч змог напісаць паводле "Путешествий по Полесью и Белорусскому краю" П. Шпілеўскага. Уважліва прачытаў с. 55—56 і сапраўды не знайшоў там нічога адпаведнага. А ўся справа ў тым, што на той час беларускі фальклор яшчэ зусім не ведаў такога жанру, як частушка, які прыйшоў да нас з рускай вуснапаэтычнай творчасці і ўзнік... напрыканцы XIX стагоддзя ў асяроддзі фабрычных і заводскіх рабочых.

Я згодны з пісьменнікам у тым, што "ніхто ні да Шпілеўскага, ні пасля яго не рабіў апісання 52 багоў і духаў. Ніхому не ўдалося даць такія падрабязныя характарыстыкі іх. Нідзе не знойдзеш гэткіх дакладных партрэтаў тых, чаго нарадзіла шчодрая народная фантазія. Але ці толькі народная?" Гаворка вядзецца пра працу "Беларускія паданні", якая пабачыла свет пад псеўданімам Драўлянскі. Вядома ж, нельга выключаць таго, што пры распрацоўцы гэтай тэматыкі П. Шпілеўскі актыўна "уключаў" сваю багатую фантазію, але, з другога боку, тэарэтычнай распрацоўкай дэманалагічнага свету беларусаў ажно да канца 80—х гадоў XX стагоддзя ніхто так і не займаўся. Можна толькі ўявіць, які б багацейшы пласт беларускай духоўнай спадчыны быў бы ўзняты, адроджаны, развіты, калі б усяму гэтаму была ўдзелена належная ўвага. Важна і тое, як адрэагавалі чытачы, бо, напрыклад, "Даследаванне аб ваўкалаках", якое пабачыла свет асобным адбіткам у "Москвитянине" за 1853 год, да гэтага часу карыстаецца попытам у навукоўцаў. Яшчэ б хацелася сказаць колькі слоў у працяг закранутага аспекта — мабыць, не варта было ў краязнаўчых элегіях рабіць тэарэтычны разгляд працаў пэўных персанажаў, бо тады губляецца асноўны акцэнт, мова становіцца вузкапрафесійнай, а ад жывога аповеду не застаецца ніякага следу. Гэтым А. Марціновіч "грэшыць" тады, калі піша пра К. Каганца, А. Багданава (Маліноўскага), А. Чыжэўскага, М. Багушэвіч.

І апошняе. Вельмі спадабаліся тыя эсэ, дзе гаворка вядзецца пра мастакоў В. Ваньковіча, М. Неўрава, М. Мікешына, а сярод іх — апавяданне пра апошняга. На маю думку, такой моцнай элегія атрымалася з-за багацця фактаў, якія адшукаў, упарадкаваў і выкарыстаў А. Марціновіч пры напісанні гэтага твора. Выбіраць было з чаго. Маці М. Мікешына — Ганна Барташэвіч, была заўважана на балі, за дзівосную прыгажосць, самім Напалеонам, а слаўты маршал Ней уручыў ёй ад імператара чырвоную ружу, якую прыгажуня захоўвала ўсё сваё жыццё. Іронія лёсу, але гэтая дзяўчына выходзіць замуж за звычайнага селяніна — Восіпа Мікешына. У гэтай сям'і і нарадзіўся таленавіты хлапчук.

Адносна даты нараджэння М. Мікешына,А. Марціновіч крыху, відаць, наблытаў, бо на с. 356 чытаем: "...сям'я, якая на той час мела некалькі дачок, дачакалася сына. 21 лютага 1835 года ў Мікешыных нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Мішам". А ўжо на с. 357 пазначана: "У гэтых жа запісах адзін з раздзелаў называецца "1812 год". Да з'яўлення на свет Мікешына заставалася яшчэ трынаццаць гадоў" (падкрэслена мной. — **А. Н.**)..."

А хіба не мог абрасці легендамі рэальны факт, калі зусім яшчэ малады і амаль нікому не вядомы мастак-баталіст — усяго дваццацітрохгадовы — выйграў конкурс на будаўніцтва помніка "Тысячагоддзе Расіі" сярод 57 праектаў. Мала гэтага, калі мастак даведаўся, што сярод выдатных асоб, выявы якіх павінны былі размясціць на помніку, не было М. Гогаля і Т. Шаўчэнкі, то ўступіў у супярэчанні з самім царом і... напалову дасягнуў свайго — адлюстраванне Гогаля было захавана.

Ужо толькі сваімі карцінамі, прысвечанымі беларускай тэматыцы, Міхаіл Восіпавіч назаўсёды захаваў бы пра сябе памяць сярод удзячных нашчадкаў. А прыгадаць тут ёсць што: "Жаніх і нявеста", "Беларуская дзяўчына", "Банкір і шляхціц", "Дзед і баба", "Тыпы Магілёўскай губерні", "Паштовая эстафета. Беларусь", "Жабрачка" і іншыя.

А чаго вартыя яго "Смяхотныя лісты" з адпаведнымі надпісамі-дыялогамі пад імі. Вельмі ж яны ўдала перадаюць памяркоўнасць беларускай душы. "—Дзед, га, дзед, а калі ж ваша сяло гарэць перастане?

— А відаць, як усё згарыць, так і перастане".

Нам прыгадваецца ўжо з сучаснага амаль аналагічнае:

— Дзед, га, дзед...

— Ну?..

— Твая карова курыць?..

— Не...

— То ў цябе хлеў гарыць...

Хочацца спадзявацца, што хутка ў пераліку кніг Алеся Марціновіча "Хто мы, адкуль мы...", "У часе прасветленыя твары", "Элегіі забытых дарог" з'явіцца новая, якая працягне гэтую цікавую тэматыку.

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ,**
**прафесар,**
**доктар філалагічных навук**

# Вышыня душы

У малдаўскага пісьменніка Іёна Друцэ ёсць цудоўны раман "Цяжар нашай дабрыні". Галоўны герой яго — Анаке Карабуш — здолеў цераз усё жыццё пранесці ў сабе самую важную, на мой погляд, чалавечую якасць — дабрыню. Не страціць яе падчас пакутлівых жыццёвых выпрабаванняў, дарыць яе іншым і заўсёды глядзець з аптымізмам у будучыню, чаго нам так не хапае цяпер. Менавіта дабрыня, на думку пісьменніка, здольна перамагчы нягоды, менавіта яна з'яўляецца вызначальным крытэрыем лёсу нацыі. І сёння, перачытваючы гэты, як зараз прынята казаць, савецкі твор, глыбей разумееш сэнс свайго існавання, які, безумоўна, павінен грунтавацца на агульначалавечых, гуманістычных прынцыпах.

Твор малдаўскага пісьменніка я ўзгадаў нездарма: перада мною — кніга, якая і навяла на падобную паралель. Кніга — не раман і не аповесць, і нават не зборнік апавяданняў, а шчырая размова з чытачом, у якой узнімаюцца надзённыя праблемы сучаснасці ў сувязі з разглядам твораў рускай літаратуры. Твораў малавядомых, амаль не вывучаных у айчынным літаратуразнаўстве, якія — патрабуюць асцярожнага і беражлівага, уважлівага і ўдумлівага стаўлення.

Аўтар кнігі — Юрый Васільевіч Паталкоў, дацэнт Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. С. Пушкіна. Паэзія — асаблівае кола яго інтарэсаў. Менавіта ёй і прысвяціў ён некалькі сваіх кніг, што выйшлі ў розны час пад агульнай назвай — "Строка і чувство". Перада мной — чацвёрты выпуск, у якім, апрача паэзіі, даследуюцца і празаічныя творы.

У прадмове, напісанай прафесарам Міколам Мішчанчуком, засяроджваецца ўвага на гуманістычным змесце ўсіх кніг Ю. Паталкова. У прыватнасці, што "гуманізм гэты не назойліва дыдактычны, а аб'ектыўны, які выцякае з асэнсавання мастацкіх твораў розных аўтараў, расшыфроўкі (часцей за ўсё таленавітай) нават іх асобных радкоў, на першы погляд, нічым і не паказальных, "ключавых" слоў". Заслуга аўтара, на думку М. Мішчанчука, у тым, што той у "магутнай плыні мастацкай прадукцыі шасцідзесяцігадовага перыяду змог знайсці дамінантныя творы, якія "працуюць" на выскароднасць чалавека і чалавецтва, выхоўваюць міласэрнасць (Ю. Друніна. "Я толькі раз бачыла рукапашны"), адстойваюць "ахрыплую праўду" (С. Гудзенка. "Маё пакаленне"), славяць "узыходжанне да кахання" (Ф. Гарэнштэйн. "Збавенне"). А "аб'ядналь пачатак многіх твораў крыецца ў высокай маральнасці заключанага ў іх зместу, у пераклічцы мастацкіх шэдэўраў праз дзесяцігоддзі (і нават — стагоддзі)".

Аналізуючы аповесць І. Шмялёва "Неўпіваемая чаша", Паталкоў засяроджвае ўвагу на хрысціянскай маралі, імкнецца разгадаць таямніцу "душы чалавека ў момант стварэння ім твора мастацтва".

Гаворачы пра вершы А. Ахматавай, Паталкоў даследуе прычыны таго, што прымусіла паэтэсу свядома застаца жыць на Радзіме, тым самым ахвяраваўшы сабой у імя духоўнага выратавання свайго народа.

У аповесці У. Набокава "Кароль, дама, валет" Паталкоў зноў шукае адказ на пытанні: ці жывём мы на самай справе? Ці не ператвараемся ў пыл, у нішто, як персанажы твора, якія, абраўшы "вечнасць смерці, заснаванай на нянавісці", зніклі духоўна? Юрый Васільевіч упэўнены, што ў аснове "вечнасці жыцця — каханне". Таму твор Набокава папярэджвае "Апомніцеся! Вечнасць — гэта жыццё, а не смерць!"

Пераемнасць гісторыі, "паралелі эпох" цікавяць Паталкова ў раманах Ю. Тынянава "Смерць Вазір—Мухтара" і В. Яна "Чынгіз—хан". Страта "чалавечых устояў" — у рамане Л. Ляонава "Соць". Праблема асобы ў грамадстве — у рамане У. Набокава "Абарона Лужына". Радзіма — у аповесці Вараб'ёва "Гэта мы, Госпадзі!.."

Сутнасць сапраўднай міласэрнасці раскрываецца праз верш Друнінай "Я толькі раз бачыла рукапашны..."

"Чалавек—рамантык, які жыве па законах рыцарства, гонару, вечнасці", цікавіць Паталкова ў кнізе К. Паўстоўскага "Далёкія гады".

"Антысталінская тэма" паўстае з разваг над "Калымскімі апавяданнямі" Шаламава.

Праблема шчасця прыцягвае ўвагу ў рамане Гарэнштэйна "Збавенне". Паталкоў піша: "Чалавек пачынае дарогу да шчасця са змены іншых, а не сябе. У выніку ўзнікае нешта накшталт "перападу ціску": па—за жыццём усё лягчэй і правільней, "ціск" зла зніжаецца. Унутры ж чалавек па—ранейшаму цёмны і люты. Душа яго пачынае кідацца і не знаходзіць сабе месца. Потым індывід выясняе, што сапраўднага неба ён проста не ўбачыць: чалавек стварыў сабе "надуманае неба". Жыве ў прыдуманым свеце. Нельга сляпой душой убачыць свет. Можна ўбачыць толькі міражы. Слепата душы — гэта і ёсць галоўны, недаравальны грэх чалавецтва. За яго і церпім. Па слепаце ўпэўнены, што да шчасця могуць прывесці войны, рэвалюцыі, перабудовы — усякія знешнія змены. Без душэўных змен. Страшная ілюзія. Самагубная хімера!"

Асэнсаванню трагічных старонак нашай гісторыі прысвечаны нарысы, у якіх даследуюцца раманы: Залыгіна "Салёная Падзь", Салжаніцына "Ракавы корпус", Аляшкоўскага "Рука", Максімава "Развітанне з ніадкуль. Чаша злосці", Гарэнштэйна "Псалом"; аповесці Распуціна "Развітанне з Мацёрай", "Апошні ўрок", Трыфанава "Абмен".

Апрача гэтага, шукаецца глыбінны сэнс у паэзіі Твардоўскага, Ражджественскага; малой прозе Носава, Шукшына і многіх іншых.

І паўсюль — гуманістычны пафас. Вера ў чалавека. У яго здольнасць стаць, нарэшце, відушчым, наблізіцца праз дабрыню і мастацтва да Бога.

Чым не выклік сённяшнім песімістам?!

**Сяргей ГРЫШКЕВІЧ**
*г. Брэст*

***Это правда — земля для народа:***
***Нас хоронят всех в этой земле.***

У свой час гэты верш адмовіліся друкаваць у "Нёмане"... Але ў гэтых радках і заключаецца, бадай, галоўны парадокс творчасці Уладзіміра Бобрыкава, творчасці надзвычай своеасаблівай, аналагаў якой у рускамоўнай паэзіі Беларусі адшукаць цяжка. Ён, безумоўна, беларускі паэт, і не толькі згодна штампу аб прапісцы, хоць, акрамя Мінска, галоўнымі для яго месцамі, дзе пішацца найлепш і найбольш, з'яўляюцца Масква ды Адэса. Так, вучыўся ён у Маскве, у тым ліку ў ВГІКу, але здымаўся ў кіно тут ("Круглянскі мост"). Так сталася , што апошні канцэрт у Мінску ён даў у кастрычніку 1987 года, і на ім, здаецца, згадваючы блізкі ўжо ўзрост Хрыста, пажартаваў: маўляў, з гэтай самай, мусіць, нагоды было зроблена аж сем дубляў эпізоду, калі яго, забітага паводле сцэнарыя, але жывога ў жыцці, апускалі ў магілу. Ён наогул жартуе часам на мяжы фолу, але жарт для яго — усяго толькі нейкі не надта надзейны шчыт, якім ён захінае ўласную душу. І той жа час — шырока расхінае яе ў вершах.

***Счастливая страна,***
***внушившая себе,***
***что лишь она одна***
***права в своей борьбе.***
***Страна, что хвалит свой***
***невыносимый путь,***
***и в завтрашний свой день***
***боится заглянуть.***
***Как счастлив мой народ!***
***Он молчалив и тих.***
***Живущий без свобод,***
***не знающий о них.***

Гэтыя словы пісаліся, зауважу, у далёкім ужо, здавалася б, 1980 годзе, вярнуцца ў які яшчэ зусім нядаўна магчыма было хіба што ў чорных мроях. Выступаючы 11 студзеня 2001 года ва ўтульным барчыку "Грэфіці" ў Мінску, Уладзімір Бобрыкаў раптам прызнаўся: ён думаў, што гэтыя вершы, гэтая песня назаўсёды адышлі ўжо ў гісторыю, аднак цяпер яны зноў зрабіліся актуальнымі. Ці не гаворыць гэта пра тое, што гісторыя паўтараецца? І не толькі ў выглядзе фарса, а ў выглядзе сапраўднай трагедыі: менавіта з нагоды песень Уладзіміра Бобрыкава ў пачатку 80—ых гадоў адбылося слыннае бюро Мінскага гаркама партыі, рашэннем якога яму афіцыйна (!) забараніліі выступаць у Беларусі з канцэртамі. Такі "гонар" у нашай краіне ад улады атрымаў, здаецца, толькі ён адзін. Дарэчы, такая забарона ўспрымаецца сёння ці не як дзяржаўная адзнака, калі хочаце — узнагарода за сапраўды вартасную творчую працу. Нешта накшталт дзяржпрэміі. Ці знаку якасці — як хочаце.

Забарона спяваць Бобрыкаву ў Беларусі (пра выданне вершаў тады наогул гаворка не ішла) не азначала, аднак, што ён перастаў выступаць з канцэртамі ў Беларусі наогул. Ягоныя вершы ўпершыню былі надрукаваныя ў часопісе "Грани" (выдавецтва "Посев", Мюнхен). Аўтар пра тое нават не ведаў. Тады ён упершыню цесна пазнаёміўся з КДБ, і ў выніку запісаны на фірме "Мелодия" песні так і не пабачылі свет. Нягледзячы нават на тое, што дзве песні Уладзіміра Бобрыкава спяваў Іосіф Кабзон. У сярэдзіне мая 1986 года я, седзячы ў кавярні Тбіліскай філармоніі ў дзень адкрыцця міжнароднага джаз—фестывалю з удзелам раней у нас не бачных зорак джаза сацыялістычных краін, вачам не паверыў: па фае крочыў Бабёр! У кампаніі вясёлых грузінскіх мужчын ды з вялікай валізкай у руцэ. "Каньяк будзеш?" — замест прывітання спытаў ён. І мы пілі той каньяк, як аказалася — хабар аднаму з ягоных тбіліскіх сяброў, смяяліся, амаль нічога яшчэ не ведаючы пра Чарнобыль, і Бобрыкаў расказваў, што прыехаў сюды ўсяго толькі на два канцэрты, але ў яго забралі пашпарт і не хочуць адпускаць. Больш за месяц ён тады прабыў у Грузіі і спяваў, чытаў вершы штодня. У наступныя гады каньяк і больш пралетарскія напоі зрабіліся ягонымі найбліжэйшымі сябрамі. На жаль, менавіта таму з канца 80-ых у Мінску ён ужо публічна не выступаў, хоць зніклі і гаркамы, і забароны на творчасць успрымаліся недарэчным жартам, які, здавалася, назаўсёды адышоў у гісторыю.

Як аказалася — не.

***Собираемся на праздник большой,***
***Приучают то, что надобно петь.***
***Только что—то надо делать***
***с душой,***
***Чтоб взяла, да перестала болеть.***

Гэтыя радкі — зноў жа, з тых самых "забароненых" часоў. З 1983 года. А ўражанне такое, што пісаліся яны — сёння. Вось вам і яшчэ адно сведчанне таго, што паэзія, прадбачанне паэта і адначасова — дакладна зроблены ім адбітак рэчаіснасці ў ягонай творчасці не старэюць. Прынамсі, у Беларусі — дакладна. І наступныя восем радкоў, знешне няхітрых, праставатых, — таксама кінутыя Бобрыкавым туды ж — у вечнасць:

***Ведь было как до сих пор?***
***У нас всегда было так:***
***взойдет дурак на бугор,***
***и ясно всем, что дурак.***

***Да, было так до сих пор,***
***и будет так на века:***
***чем выше этот бугор,***
***видней на нём дурака.***

Недзе ў 1997 годзе, як снег на галаву, у рэдакцыйным пакоі з'явіўся Бобрыкаў з дыскетай у руках і папрасіў раздрукаваць рукапіс кнігі. Шчыра кажучы, я тады яму не паверыў, але просьбу выканаў. Пасля чаго ён зноў надоўга знік. А кніжка ўсё ж была выдадзена ў канцы 2000 года фондам І.Сыціна ў Маскве. У ёй — вершы, песні, балады, што былі напісаны за цэлую чвэрць стагоддзя. "Письмо во тьму неграмотному другу". Магчыма, той ліст і мне — таксама. Ды ведаю, што далёка не ўсё з напісанага трапіла ў гэты зборнік. З напісанага, пражытага. Для мяне ж асабіста гэтая кніжка — дарагая. І не толькі таму, што я даўно ведаю Бабра, а яшчэ і таму, што пісаў ён пра тое,чым жыў і я сам, жылі мае сябры, жыла цэлая краіна. Нездарма ж у 1987 годзе на хвалях рускай рэдакцыі ВВС яго назвалі ці не лепшым сучасным паэтам, які адлюстраваў свой час. Магчыма, крыху й перабралі з адзнакай, узвысілі так, як ён таго не жадаў. Але тое, што ў вершах і песнях Уладзіміра Бобрыкава сапраўды ёсць карціны жыцця краіны апошняй чвэрці стагоддзя, — не выклікае ніякіх сумненняў. Проста жыццё не навучыла яго хлусіць.

***Не возвращайтесь***
***на родину эту —***
***Здесь по старинке ценят поэтов.***
***Здесь по привычке постановленье***
***Всем заменяет душу и мненье.***

***Ныне не жертво —***
***а душ приношенье,***
***Кому для острастки,***
***кому в утешенье.***
***Здесь по старинке — голосованье***
***Выше, чем честность,***
***больше, чем знанье.***

**("Письмо на тот свет". Александру Галичу и Владимиру Высоцкому, 1985 год).**

**Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ**

## "Архаіка" Анатоля Кузняцова



*Імя мастака Анатоля Кузняцова ў беларускім творчым асяродку вядомае. Праўда, пісаць пра яго творчасць складана, бо яго жывапісныя палотны не маюць акрэсленай тэматыкі, выяўляючы людзей ці рэчаў. Не глядзяцца яго работы і ў газетным чорна—белым варыянце. Яны разлічаны на суцiранне і разважанні гледачоў, якія адчуваюць гармонію колераў, настраёвыя ўражанні. Яго выставы ў Музеі сучаснага мастацтва і ў мастацкай галерэі прайшлі з поспехам.*

**Большасць мастакоў прапануе з вялікім пад'ёмам творы, прысвечаныя падзеям сучаснасці, намнога радзей звяртаючыся да мінулага. Рэдка сустракаеш у мастакоўскім асяроддзі сур'ёзныя разваргі пра часы, якія ад нас аддалены. Серыя "Архаіка" Анатоля Кузняцова менавіта такая выключная з'ява. Дваццаць акварэляў, якія былі выкананы ім у сярэдзіне дзевяностых гадоў, лёгка могуць азадачыць гледача: дзіўныя плямы, нібыта выпадковыя мазкі, пражылкі, трэшчынкі... Паверхня паперы — сведка настойлівых і працяглых высілкаў аўтара. Няроўныя, парваныя краі лістоў: ні лінейка, ні цыркуль рукам не дапамагалі. Затое афармленне кампазіцый узнагароджвае здзіўленае вока класічнай строгасцю і прастатою: шырокія светлыя палі і вузкая строгая рамка. Ніводнай назвы аўтар не прапанаваў, але прыдумайце хаця б адно самі...**

**Каб адчуць перажыванні і надзеі Анатоля Кузняцова, трэба доўга ўглядвацца ў кожную акварэль.**

**Магчыма, некаму фантазія падкажа гронкі невядомых суквеццяў, крылы агромністага матылька, цені птушак і рыб, сілуэты зламанай арфы і пазелянелага бронзавага падсвечніка. Альбо, наадварот, вы не ўбачыце ні крылаў матылька, ні падсвечніка. Сама размова пра бязрэчавы свет аказалася б на выставе Кузняцова размоваю цалкам беспадстаўнаю.**

**Згадайце свае ўражанні ад падарожжаў. Калі вы любаваліся каменьчыкамі скрозь тоўшчу вады, калі без мэты і шляху ішлі наўгад па вясеннім лесе, калі ляжалі на цёплым узгорку, глядзелі і не маглі адарвацца ад зменлівага бегу аблокаў — тады вы зразумееце Анатоля Кузняцова.**

**У анатацыі да адной з выставаў А. Кузняцова мастак В. Сахно так адазваўся пра музу Анатоля: "тонкасць, неабароненасць, ранімасць, прынцыповасць і мужнасць". Дакладна падабраны свежыя, незацёртыя словы. Жывапісец З. Літвінава заўважыла, што "душэўная тонкасць мастака выказваецца ў меладычнасці пластыкі, яна прыцягальная, зацягвае ў глыбіню колеру і складана вібруючай прасторы". Сапраўды, двухмерная плоскасць на вачах становіцца бясконцай, здаецца, чуеш колер і бачыш гук. З уяўнага хаосу выпадковых, здаецца, плямаў, мазкоў і штрыхоў вырастае паліфанічная гармонія прасторы і часу без усялякай фальшы гукаў.**

**Вядома, што запатрабаванні сённяшніх гараджанаў часам нават звыш меры "прадметныя" і разумныя. Тлумачацца гэта хутчэй бытам, паўсядзённасцю, але зусім не быццём. Гаварыць пра быт на выставе Анатоля Кузняцова проста не выпадае, не да месца, тут прадстае менавіта быццё, якое рана ці позна павінна перафарміраваць нашу свядомасць.**

**К. ЗЕЛЯНОЙ**

*На здымку: мастак А. Кузняцоў.*
*Фота М. ПРУПАСА*

МЕРКАВАННЕ

# Тэатр у абласным вымярэнні

...Праўду кажучы, Брэст ніколі не лічыўся асабліва выдатным цэнтрам культуры на Беларусі. Канечне, у гістарычным вымярэнні і ў яго, як у амаль кожнага горада на Беларусі, можна знайсці шмат чаго цікавага. Тут, па загадзе вялікага канцлера ВКЛ Мікалая Чорнага была адчыненая моцная пратэстанцкая друкарня, да якой ускоснае дачыненне меў Сымон Будны. Тут функцыянíравалі, як і на ўсёй прасторы сярэдневяковай Беларусі, і праваслаўныя брацтвы, і школьныя тэатры са славутымі мясцовымі "ўстаўкамі" — інтэрлюдыямі ды інтэрмедыямі. Але ўсё ж заўсёды здавалася, што вышэйшы "сэнс" быцця гэтага горада ляжыць у ваенна-геапалітычнай і гаспадарчых сферах. І пасля знакамітых падзелаў Рэчы Паспалітай, пасля далучэння да Расійскай імперыі Брэст ніколі не быў цэнтрам губерні, і толькі пасля 1939 года жыццё яго пайшло па новай каляіне, якая замацавалася толькі пасля 2-ой сусветнай вайны...

...Тады і з'явіўся на новай аснове тэатр, як неабходны і пастаянны фактар культурнага жыцця краю.

Спачатку, колькі мне вядома, ён выкарыстоўваў акцёрскі склад з ужо сфарміраваных тэатральных калектываў з усходніх гарадоў БССР. Аб гэтым мне расказваў мой дзядзька — Я. Палосін, тады акцёр Гомельскага рускага тэатра, будынак якога быў разбіты падчас вайны. І ён, і вядомая купалаўская актрыса Т. Аляксеева і шмат іншых потым вядомых у рэспубліцы акцёраў прайшлі праз гарніла Брэсцкага драматычнага...

...У памяці ж захавалася маё першае наведванне Брэста ў 1962 годзе.

Яшчэ былі свежыя ўспаміны пра знакаміты спектакль-візітоўку тэатра "Брэсцкая крэпасць" па п'есе К. Губарэвіча ў рэжысуры А. Міронскага. У 1960 годзе спектакль з поспехам прайшоў на сцэне Крамлёўскага тэатра ў Маскве. Надоўга запомніліся вобразы гераічных абаронцаў Брэсцкай крэпасці, створаныя акцёрамі М. Абрамавым (камісар Калеснікаў), П. Маркіным (палкоўнік Ермашоў), Б. Уксусавым (Кукушкін), Т. Заронак (Даша), Ю. Уласавым (Пінчук), Г. Качатковай (Калеснікава). Менавіта тады і здавалася апраўданым прысваенне тэатру імя Ленінскага камсамола Беларусі — быў ён маладым, гарачым, патрыятычным. Але, прыбыўшы ў Брэст на пачатку вясны 1962 года, аўтар гэтых радкоў, тады яшчэ зусім малады тэатральны крытык, знайшоў у ім не толькі патрыятычны запал, а і нейкі патаемны псіхалагічны ўхіл. Ён верагодна нагадваў восень 1944 года, калі асноўную трупу тэатра складалі выпускнікі маскоўскага гарадскога вучылішча, і на яго першай афішы значыліся творы П. Марыво, А. Чэхава, М. Горкага.

І тады, памятаецца, уразіла розніца паміж сучасным савецкім "Жыццём і злачынствам Антона Шэлеставa" і "Трыма сёстрамі" Чэхава ды "Аннай Карэнінай" паводле Талстога. Імкненне да псіхалагізму засталося і яно падтрымлівалася ўсімі галоўнымі рэжысёрамі, якія ў 60-ыя і да пачатку 80-х узначальвалі тэатр: Ю. Арынянскім, П. Вінаградавым, С. Еўдашэнкам.

Але з часам не ставала моцы, каб усе задумкі ажыццявіць на належным мастакоўскім узроўні: тэатр усё больш рабіўся і сапраўды заштатным, правінцыйным. Не, на маёй памяці былі і асобныя ўзлёты (як след, пасля гастроляў у сталіцы, калі знаходзіліся адзін—два спектаклі, аб якіх разважалі тэатразнаўцы і крытыкі). Прыкладам, у памяці ўзнікаюць спектаклі 70-га года "Дон Хіль — зялёныя штаны" на Тырса дэ Маліна ў пастаноўцы Р. Баравіка і пачатку 80-х "Яна ў адсутнасці кахання і смерці" па п'есе Э. Радзінскага ў рэжысуры Т. Бэлічэнкі — абодва, пры некаторых хібах, усё ж прываблівалі сваёй энергетыкай, больш-менш дакладным "патрапленнем" у акцёрскія індывідуальнасці...

У 90-х у Брэсце паўстала новая рэальнасць, якая не можа не адбівацца на развіцці ўсёй тэатральнай культуры ў рэспубліцы. Назва гэтай з'явы вядома ўсім тэатралам — "Белая вежа". Кожны год на міжнародны брэсцкі тэатральны фэст прыязджаюць сапраўды цікавыя калектывы (нават з далёкай Бразіліі). Але галоўнае, што ён збірае тэатральныя відовішчы з нашага рэгіёна: Беларусі, Украіны, Польшчы, Літвы, Расіі. І хаця, часам, не ўсё з іх знаходзіцца на вышэйшым мастацкім узроўні, але лепшыя, безумоўна, садзейнічаюць прагрэсу тэатральнага працэсу ў рэспубліцы. Да таго ж, гэты фэст наталяе прагу людзей тэатра да кантактаў (так звуканых у наш час з-за эканамічнай сітуацыі), узнімае ўзровень тэатральнай культуры гледача. Але "Белая вежа" — гэта светлы бок існавання Брэсцкага абласнога. А як жыве тэатр сваім звычайным жыццём, якія ў ім ідуць рухі, які напрамак і ўзровень тэатральнага быцця?

Усе гэтыя надзённыя, звышнадзённыя пытанні імкнулася вырашыць група тэатразнаўцаў і крытыкаў, якая наведала Брэсцкі абласны таэтр драмы і музыкі напачатку 2001 года. Быў прагляд спектакляў, быў абмен думкамі. І хочацца падзякаваць Міністэрству культуры і Саюзу літаратурна-мастацкіх крытыкаў за правядзенне гэтай акцыі — дзе ж ты наладзіш у наш час сапраўдныя (на месяц — як у савецкі час) гастролі, дзе збярэш цэлы "ўзвод" спецыялістаў для размовы аб тэатры. А гэта — сапраўдная, незангажаваная, аб'ектыўная крытыка патрэбна тэатру як глыток чыстага паветра.

І хаця некаторыя ацэнкі членаў нашай групы розніліся (праўда, нязначна), а аўтар гэтых радкоў вызначаецца пэўнай рэзкасцю суджэнняў, — сама акцыя, падкрэслім яшчэ раз, наяўна даказала сваю канструктыўнасць.

...Але заглянем ў залу Брэсцкага абласнога тэатра.

Першы спектакль, які быў паказаны ў рамках своеасаблівай тэатральнай справаздачы, меў назву "Дзівацтвы Белісы" і жанрава вызначаўся як "камедыя-гратэск". Аднак гэтая камедыя належыць пяру Лопэ дэ Вэгі, і ў нашым тэатры існуе, бадай, векавечная традыцыя пастановак вялікага камедыёграфа. Тут абавязкова атмасфера кахання, весялосці, хітрыкаў з боку закаханых, авантур і г.д. Адным словам, лёгкае, вясёлае дзеянне, аптымістычны фінал, сутыкненне з радасцю.

Нічога альбо амаль нічога падобнага няма ў Брэсцкім тэатры. Дзеянне пазбаўленае і меры, і густу і, зразумела, галоўны адказны за такую "трактоўку" класіка — рэжысёр-пастаноўшчык Таццяна Пацай. "Постмадэрнізм" у яе пастаноўцы выяўляецца ў модных "сэксакцэнтах": галоўная гераіня ў важнай размове бесперапынна перасоўвае бюстгалтэр, служка героя з'яўляецца на сцэну ў баскетбольных трусах, паходка Дон Хуана, аднаго з галоўных герояў, спараджае думку аб нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыі. Размовы і дзеянні герояў штучныя, нават добрыя акцёры Т. Ляўчук (Лісарда) і М. Мятліцкі (Цівер'е, брат Лісарды) аказваюцца вельмі непераканаўчымі ў шэрагу эпізодаў, а галоўная гераіня Беліса ў выкананні Т. Юрык і зусім бездапаможнай. І гэта ўсё адбываецца, на мой погляд, таму, што рэжысёр выбудоўвае спектакль насуперак Лопэ дэ Вэгу. Зрэшты, справа не ў дакладнасці тэмпарытму ці ў пабудове мізансцэн, а ў тым, што ў вялікага іспанскага драматурга ёсць першародства палкасці і кахання, а ў спектаклі — амаль няма. Гэта "амаль" тычыцца, здавалася б, другарадных герояў Фелісарда (Педры) — А. Бузук і Селы (Зары) — Н. Лабко, якія адзіныя даказалі неўміручасць лопэдэвэгаўскага першародства кахання: дзякуючы ім напрыканцы першай дзеі адбыўся адзіны ўзлёт у спектаклі.

Акрамя гэтага, у пастаноўцы бракуе вынаходніцтва і сцэнографа (В. Лесін), і мастака па касцюмах (Т. Карвякова) і нават кампазітара (В. Кандрасюк), паколькі дзеянне ўвесь час суправаджаецца сінкопамі... Але ж пры тым наяўна бачна, што ў тэатры, які носіць назву "тэатр драмы і музыкі", амаль ніхто з акцёраў не можа спяваць!?

Нятрапнасць час ад часу ў музычны строй, несупадзенне гуказапісу і акцёрскага выражэння ствараюць уражанне, што дзеянне дзіцячага спектакля "Кошчын дом", які паставіў у шоу-ключы Ю. Лізінгевіч, адбываецца нібыта пад плясцінку. Але, на шчасце, спектакль выратоўвае моцная рэжысёрская думка, ён выглядае арганічным, цэласным. З натхненнем вядуць свае ролі А. Ягорава (Кошка), Ст. Савосцін (Певень, Kaцянё), Т. Зелянко (Каза), Г. Чурыкаў (Свіння).

Але яе, гэтай самай рэжысёрскай думкі, а больш дакладней кажучы, рэжысёрскае рукі не хапае іншым спектаклям брэстаўчан. Пра гэта сведчаць работы ветэрана брэсцкай сцэны з.а. РБ Сяргея Еўдашэнкі. Аналізуючы спектакль "Французскія страсці на падмаскоўнай дачы" па п'есе Л. Разумоўскай, хочацца прыгадаць, што дэталь — вельмі важная з'ява ў тэатры, з дакладнай дэталі, часам, на сцэне выбудоўваецца спектакль. У пастаноўцы С. Еўдашэнкі ўсё робіцца як бы ад адваротнага. Прынамсі, стрэл, які забівае Жанна, праходзіць па-за ўвагай гледача, хаця ён павінен быць аглушальным, стаць нейкай кропкай у спектаклі. Яшчэ больш дрэнна тое, што не выбудаваны ўзаемаадносіны герояў. Гэта тым больш крыўдна, што работы артыстаў Т. Кірынай (Зоя Віктараўна), Т. Ляўчук (Лідзія Мікалаеўна), Т. Юрык (Лара), С. Пяткевіча (Жан) увогуле нядрэнныя і можна было б чакаць нечага ад спектакля, калі б...

Іншае ўражанне пакідае спектакль "Сола для гадзінніка з боем". Нягледзячы на тое, што многія з крытыкаў не прынялі гэты спектакль, мне ён падаўся пазітыўным з-за, галоўным чынам, больш-менш арганічнага тэмпарытму, які надае яму рэжысура...

Добрыя акцёрскія работы з.а. РБ К. Перашэліцы (Францішак Абель) і Т. Ляўчук (пані Конці) — актрыса зусім не іграе ўзрост — ствараюць атмасферу "рэтра", і, калі ўцягнешся, сапраўды цікава глядзець, як іх героі пражываюць свой час на сцэне. А прысутнасць маладых герояў — Паўла, унука Абеля (Я. Тарасаў) і ягонай дзяўчыны Дашы (І. Давыдзенка) часам узрывае рамантычна-сентыментальную ідылію, якую ствараюць старэйшыя персанажы спектакля. Да таго ж і маладыя акцёры выглядаюць у спектаклі прыстойна. На жаль, не вельмі моцную дапамогу ў гэтай пастаноўцы атрымлівае рэжысёр ад сцэнографа (В. Лесін) — рэчы на сцэне здаюцца зусім выпадковымі. Трумо, тапчан і звычайны абшарпаны падлогавы гадзіннік не працуюць на





абагулены вобраз спектакля.

Пастаноўка "Выходзілі бабкі замуж" па п'есе Ф. Булякова пазначаная жанрава як "народная камедыя", спачатку разгортваецца марудна, у рэчышчы бытавой драмы. Сцэнаграфія (мастак-пастаноўшчык В. Лесін) даволі прымітыўная: перад намі ці то бальніца, ці то інтэрнат. У прасторы сцэны месцяцца чатыры ложкі, на якіх сядзяць пажылыя ўжо жанчыны...

І тут на сцэне з'яўляецца Акцёр.

Віктар Міхайлаў у ролі Абдулы стаў цэнтрам усяго тэатральнага дзейства. Яго мяккая, тэхнічная манера выканання нібыта адцяніла абрысы роляў чатырох жанчын, а дзве з іх — Паліна (Т. Ваўчэцкая) ды Іваніха (Т. Багрэева) сталіся сапраўднымі партнёркамі лідэра. На некаторы час залунаў дух сапраўднага тэатра. І хаця канчатковага рашэння спектакля няма (прынамсі, я налічыў чатыры фіналы), інтанацыя псіхалагічнага дзеяння схопленая больш - менш дакладна .

Запомнілася работа маладога рэжысёра Цімафея Ільеўскага "Карнаваль — што за дзіўная назва" па п'есе С. Кавалёва. Цікава, што ўслед за драматургам рэжысёр мусіў выявіць прыроду самога тэатра: кароль Марка (В. Міхайлаў) адначасова выступае Трагікам, а служка Брагіня (А. Ягорава) — Камедыянткай. Аднак толькі С. Пяткевіч (Трыстан) пакідае пазітыўнае ўражанне.

Спектакль, пазначаны як "жанравыя гульні на чатырох акцёраў у дзвюх дзеях", канчаткова не быў вытрыманы ў адным стылі. У гэтай пастаноўцы можна было знайсці шмат рэжысёрскіх знаходак, нават знакаміты брэхтаўскі "эфект адхілення". У спектаклі шмат руху, некаторыя эпізоды (як ў пачатку 2 - ой дзеі) сашчэпліваюцца моцна і цікава, але, на жаль, толькі эпізоды. Тым не менш адчуванне свежасці ад спектакля застаецца і тэатру, безумоўна, было б карысна працягваць супрацоўніцтва з маладым мясцовым рэжысёрам...

...Пасля прагляду шасці спектакляў Брэсцкага тэатра карціна ў агульным выглядзе не надта радавала. Часам мільгала думка, а наколькі можна разважаць аб прафесіяналізме гэтага калектыву. Амаль у кожным спектаклі брэстаўчане знаходзяцца ў "памежкавай сітуацыі" — паміж быццём і небыццём.

Але ёсць у рэпертуары адзін спектакль, які дэманструе магчымасці трупы, забяспечвае існаванне мастацтва на брэсцкай сцэне. Гэта славуты спектакль Рыда Таліпава, пастаўлены ім па творы І. Тургенева "Месяц у вёсцы". У свой час ён быў пераможцам на міжнародным тэатральным фэсце, і невыпадкова!

Спектакль ужо даўно атрымаў станоўчую прэсу, заслужыў выдатныя ацэнкі, таму я не буду доўга затрымліваць на ім увагу чытача. І зразумела, з часам у ім таксама з'явіліся страты — мне асабіста шкада страчаную лінію Шаафа (М. Маршын) — Мацвея (Я. Тарасаў) — Каці (А. Ягорава). Але адчуванне панарамнасці дзеяння, тонкай псіхалагічнай распрацаванасці і жыццесцвярджальнай атмасферы ў спектаклі засталіся і замацаваліся. І цудоўныя акцёрскія работы В. Міхайлава (Іслаеў), К. Перашэліцы (Шпігельскі), Т. Кірынай (Лізавета Багданаўна), а таксама (праўда, з некаторымі агаворкамі) — Т. Ляўчук (Наталля Пятроўна) і С. Пяткевіча (Бяляеў). А некаторыя мізансцэны, напрыклад, размова Іслаева з Ракіціным (М. Мятліцкі), сцэна на сенавале з'яўляюцца доказам арганічнасці працы рэжысёра, мастака (В. Лесін) і кампазітара (В. Кандрасюк).

Сапраўдная перамога і трыумф тэатра, нягледзячы ні на што, насуперак часу і абставінам жыцця...

... А потым, у малой зале Брэсцкага тэатра драмы і музыкі, адбылася яшчэ адна падзея, якая мела непасрэднае дачыненне да мастацтва тэатра. Гаворка ідзе пра абмеркаванне прагледжаных спектакляў — з'яве надзвычай рэдкай у наш час. Як было ўжо згадана вышэй, усе шэсць спектакляў прагледзела "брыгада" крытыкаў. Паказальна, што пры ўсіх нюансах і адхіленнях меркаванні тэатразнаўцаў у галоўным супадалі. Узнагародай жа гэтаму фінальнаму пасяджэнню было тое, што некалькі акцёраў потым падыходзілі да членаў "дэлегацыі" і шчыра дзякавалі за тое, што крытыкі прыехалі ў іх тэатр выказаць свае прафесійныя меркаванні. І гэта было яшчэ адно сведчанне аб неабходнасці сённяшняй мастацкай (у дадзеным выпадку — тэатральнай) крытыкі.

А цяпер я хацеў бы скарыстацца правам крытыка на абагульненне.

На мой погляд, спектаклі брэстаўчан паказалі, што патэнцыял у шэрагу акцёраў (асабліва маладых) у тэатры ёсць. Пазітывам можна пазначыць і прысутнасць (пры пэўных праблемах, натуральна) у тэатры больш - менш годнай сцэнаграфіі, музыкі. Затое недахопы цяперашняга быцця тэатра відавочныя. Тэзісна іх можна сфармуляваць так:

1. Тэатр сёння не мае назапашаных знутры мастацкіх якасцяў (за адным выключэннем — спектакль Р. Таліпава)

2. У тэатры адсутнічае мэтанакіраванае запрашэнне рэжысуры.

3. Тэатр не мае адзінай мастацкай лініі, адзінага мастацкага стрыжня.

4. У тэатры — як следства — няма і сваёй тэатральнай эстэтыкі, своеасаблівасць тэатральнага арганізма не ўзыходзіць да высокай мастацкай з'явы.

Чаму ж так адбылося, што тэатр, які мае цудоўнае "геапалітычнае" становішча (прысутнасць Любліна ды Украіны чаго варта!), пэўныя мастакоўскія традыцыі, стаўся раптам звычайным, ардынарным тэатрам, кажучы па - руску "без руля и ветрил"? Тут, на мой погляд, справа павышанай складанасці (як заўсёды, калі гаворка ідзе аб мастацтве), але на паверхні ляжаць дзве відавочныя прычыны. Першая: Брэст — цэнтр вядомага ўжо тэатральнага фэсту "Белая вежа" (дарэчы, шосты па ліку фестываль распачнецца тут на пачатку верасня). Другая: мастацкі кіраўнік тэатра. Абедзве прычыны звязаны паміж сабой. Справа ў тым, што А. Козак — мастацкі кіраўнік тэатра — мае доступ у любы "высокі" кабінет і можа выбіць для фэсту амаль усё. Нават у мясцовай прэсе даводзілася чытаць такое: "Патрэбнага Вам адбора, Сан Саныч! Жадаю ўдалага выбару". Такім чынам, усе свае жыццёвыя сокі тэатр паміма сваёй волі аддае фэсту. А што не для "фэсту"? Як з той руплівай працай, якую вялікі Чэхаў вуснамі сваёй славутай гераіні прызнаваў асновай сапраўднага мастацтва? Падкрэслім яшчэ раз, што А. Козак — мастацкі кіраўнік тэатра. Але не рэжысёр, і тут традыцыі славянскай сцэны прыходзяць у супраціў з практыкай брэсцкага тэатра. Канечне, можна ўявіць сабе, што мастацкі кіраўнік — неабавязкова галоўны рэжысёр. Як гэта прынята, напрыклад, у Германіі, дзе ўзначальваць тэатр можа проста высокаадукаваны чалавек ( у мяне быў такі прыяцель, які не адзін дзесятак гадоў узначальваў знакаміты берлінскі "Фолькбюнэ"), у якога шмат "памочнікаў" і па літаратурнай частцы, і ў сферы рэжысуры...

У Брэсце нічога гэтага няма. Вядома, я не супраць фэсту "Белая вежа", хаця, на маю думку, час ад часу ў ім маглі б асобна чаргавацца драматычныя і лялечны конкурсы. Да таго ж бачны і добры вынік "фэстаў" — выхаванне гледача, які прагне сустрэчы з тэатрам ( і чыю прагу, часам, не добрым чынам эксплуатуюць дзеячы тэатра ў Брэсце). Але сам тэатр, сам тэатр былога Бярэсця — унікальнага горада, Беларускага Танжэра? Як хочацца, каб ён узнавіўся на сваім лепшым тэатральным узроўні, каб ні адзін крытык у будучым у адносінах да яго не мог прамовіць гэтую сакраментальную фразу — "тэатр у абласным вымярэнні".

**Вадзім САЛЕЕЎ**

*На здымках: сцэны са спектакляў "Французскія страсці на падмаскоўнай дачы", "Выходзілі бабкі замуж".*

ВІНШУЕМ!

# Ніць Арыядны

## Мастачцы Валянціне БАРТЛАВАЙ – 50

...Ідзе абарона дыпломных работ на кафедры мадэлявання адзення і тэкстылю Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Студэнты—габеленшчыкі ўжо бралі ўдзел у шматлікіх маладзёжных выставах, ганараваныя дыпломамі і ўзнагародамі. Такім чынам многія з дыпломнікаў яшчэ ў сценах альма-матэр паспыталі асалоду творчых дасягненняў і заўважаных здабыткаў. І гэта заслуга, у першую чаргу, кафедры і яе кіраўніка Валянціны Бартлавай — дацэнта, вядомай беларускай мастачкі, якая здолела арганізаваць навучальны працэс так, каб вучням было ў каго павучыцца.



Заснаваная кафедра была ў 1961 годзе ў Беларускім дзяржаўным тэатральна—мастацкім інстытуце (цяпер — Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў) яшчэ Паўлам Масленікавым, які загадваў ёй з 1967 па 1977 год. Пра гэта аспірантка кафедры Нячай—Ніцэвіч піша: "Масленікаў здолеў разгледзець і падтрымаць з вялікай колькасці паступаючых у інстытут некалькіх самых таленавітых хлопцаў і дзяўчат". Сярод іх найболей яркай прадстаўніцай была Валянціна Бартлава. Пра яе творы Нячай—Ніцэвіч піша, што яны "навяваюць асацыятыўнае пачуццё народных песень, гукання вясны",

70—80-я гады сталі часам пошукаў Бартлавай свайго ўласнага месца ў сучаснай беларускай культуры. Але ўжо тады мастачка хаця і была ў пэўнай ступені звязаная ў творчай манеры з прынцыпамі ілюстрацыйнасці, вызначалася маштабнасцю мыслення, паэтычнай узнёсласцю вобразнага ладу, эфектнымі прыёмамі дэкаратыўных вырашэнняў тэм і сюжэтаў (габелены "Жнівень" (1979), "Гаспадар пушчы" (1980), "Белавежская пушча" (1980) і інш.).

Пэўны пералом, крок наперад у яе творчасці пачынаецца з другой паловы 80-х гадоў. Гэты перыяд супадае з узмацненнем у беларускім мастацтве нацыянальнай плыні і правядзеннем шэрагу мастацкіх выставаў, прысвечаных славутым дзеячам беларускай культуры і знамянальным датам беларускай гісторыі.

На групавой выставе 1985 года, прысвечанай 1000-годдзю Заслаўя, мастачка экспануе адзін з самых цікавых і значных габеленаў у сваёй творчасці — "Песня Купалля" (1985). Твор адметны імкненнем перадаць гукавыя і рытмічныя нюансы, асаблівасці купальскай песні праз энергію і вібрацыю колеравых рытмаў. Габелен "Песня Купалля" ў пэўным сэнсе энергетычны сімвал-знак, падобны тым, якія стваралі ў ткацтве і вышыўцы нашыя продкі.

Валянціна пасля заканчэння Інстытута чатырнаццаць гадоў працавала на камбінаце прыкладнога мастацтва, дзе на падставе вывучэння лепшых узораў народнага мастацтва, у першую чаргу — адзення, распрацоўвала эталоны трыкатажных вырабаў і камплектаў сцэнічных касцюмаў для народных, самадзейных і эстрадных калектываў рэспублікі. Бартлава распрацавала шэраг камплектаў адметных сцэнічных касцюмаў для музычных спектакляў ансамбля "Песняры" і канцэртных касцюмаў для харэаграфічнага ансамбля "Харошкі".

Яе мастацкі густ усталяваўся падчас шматлікіх экспедыцый па Беларусі ў гады навучання ў інстытуце, калі вандроўкі для студэнтаў ладзіў выдатны знаўца беларускага адзення, выкладчык Міхась Раманюк. Моцны ўплыў на фарміраванне мастацкай свядомасці габеленшчыцы мела сямейная атмасфера настаўнікаў-інтэлігентаў, у колах якой і прайшло дзяцінства Валянціны ў Докшыцах на Віцебшчыне. Яе бабка Марылька ведала і спявала вялікую колькасць беларускіх народных песень, была ткаляй і майстрыцай, а маці захаплялася вырабам арыгінальных дыванοў для ўласнага дома.



Мастачка гаварыла: "Вялікую ролю адыграла тое асяроддзе, у якім я апынулася, калі толькі прыехала з Докшыц у Мінск. Сябрамі майго брата Віктара былі Алесь Марачкін, Яўген Кулік, Алесь Разанаў, Міхась Чарняўскі, Зянон Пазняк. Усе яны: мастакі, археолагі, мастацтвазнаўцы — былі тады маладыя, кожны з іх пісаў вершы... Часта збіраліся, жылі агульнымі думкамі, агульнымі настроямі". Ужо дзесяць год мастачка ўваходзіць у творчую суполку "Пагоня" пры Беларускім саюзе мастакоў і з'яўляецца адным з творчых лідэраў у мастацкіх выставах суполкі, якія прысвечаны падзеям беларускай гісторыі і выбітным асобам зямлі беларускай.

Падзеяй у культуры беларускага габелена сталася з'яўленне такіх твораў, як "Адраджэнне" (1988), "Набат" (1989), "Парасткі" (1990). Гэта не толькі асабістыя знаходкі і дасягненні самой мастачкі. Гэта этапы сталення творчай школы нацыянальнага габелена: такой моцы знакавага і сімвалічнага гучання, унутранай энергіі і сучаснага пластычнага вынаходніцтва паводле нацыянальнай традыцыйнай мастацкай культуры яшчэ не ведала сучаснае беларускае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.

Мабыць, вяршыняй творчай дзейнасці Валянціны Бартлавай стануцца 90-я гады. Гэта перыяд яе мастацкай сталасці. Габеленавыя кампазіцыі гэтых гадоў набываюць выразныя сацыяльныя, экалагічныя, часам драматычныя адценні — творы "Полiэкалогія" (1989), "Ралля" (1994), "Прытулак" — з серыі "Чарнобыль" (1994), "Крумкачы" (1996) і іншыя.

У 1977 годзе кафедра мадэлявання адзення і тэкстылю ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце была закрыта. Праца яе аднавілася толькі ў 1993 годзе. Вывучаўся вопыт Прыбалтыкі, дзе існуюць моцныя традыцыі падобных кафедраў, была распрацавана доўгатэрміновая, навукова абгрунтаваная праграма развіцця і станаўлення беларускай школы габелена.

Даследчыкі пішуць: "Апошнім часам яе творчая праца ўсё часцей адсоўваецца клопатамі пра акадэмію, пра студэнтаў". Гэта так і не так. Мастацтва Бартлавай у апошнія гады набыло новыя рысы. Можна сказаць, што яна перайшла ад язычніцкіх традыцый беларускай культуры да хрысціянскага мыслення (габелен "Сум" (1994).

У апошнія 5-7 гадоў мастачка шмат працавала над міні-габеленамі. Часам стваралася ўражанне, што яе творчая натура стамілася ад глабальных тэм і задач у мастацтве, пацягнула да лірыкі.

І ўсё ж канец XX стагоддзя мастачка адзначыла глабальнай творчай работай, якая ўвабрала ў сябе дасягненні папярэдніх этапаў. Разам з Лявонам Бартлавым яна выканала серыю манументальных габеленаў, прысвечаных Беларусі і беларусам, прызначаных для аздаблення канферэнцзалы Беларускага універсітэта.

Завяршыць аповед пра творчасць мастачкі хачу трапнымі словамі мастацтвазнаўцы Валянціны Трыгубовіч: "Эпічнасцю, нейкай мудрай сталасцю, здольнасцю годна несці ў сабе радасць і боль за блізкіх, сучаснікаў і тых, хто адышоў у вечнасць, уражваюць габелены Валянціны".

**Таццяна ГАРАНСКАЯ**





## Плён даследчыцкага пошуку

### ЮЛІІ КАНЭ – 70

У Мінск Юлія Канэ пераехала з бацькамі ў 1945 годзе. А нарадзілася яна ў горадзе Маскве. Скончыла аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У 1954–1955 гадах была літсупрацоўнікам, стылістам у рэдакцыях газет Літвы, а ў 1955–1959 гадах працавала на Мінскім аўтазаводзе рэдактарам у аддзеле галоўнага канструктара, у газеце "Піянер Беларусі". Пасля знаходзілася на творчай працы. З 1992 года жыве ў Ізраілі.

Друкавацца пачала ў 1951 годзе. Як літаратурны крытык выступае з 1958–га. Рэцэнзіі, артыкулы змяшчаліся ў перыёдыцы. Лепшыя з іх прадстаўлены ў кнігах "Дзень сённяшні", "Плынь"... Вялікую ўвагу Ю. Канэ надае даследаванню жыцця і творчасці Янкі Брыля. У Маскве выйшла яе манаграфія "Янка Брыль", у Мінску – "Як паветра і хлеб. Жыццёвы і творчы шлях Янкі Брыля". Вядома таксама як перакладчык, займаецца праблемамі перакладазнаўства.

Віншуем Юлію Міхайлаўну з 70–годдзем! Зычым доўгіх год жыцця, поспехаў у творчай працы!

## Пяро ў надзейных руках

### СЯМЁНУ БУКЧЫНУ – 60

Сямён Уладзіміравіч – чалавек знаны ў літаратуразнаўстве, публіцыстыцы. Друкуецца з 1959 года. А пачынаў свой творчы шлях як журналіст у рэдакцыі беларускай дзіцячай газеты "Зорька". З 1966–га выступае як крытык, літаратуразнавец, празаік. Шырокую вядомасць набылі кнігі С. Букчына "Дорогой Антон Павлович...", "Очерки о корреспондентах А. П. Чехова" (1973), "Судьба фельетониста. Жизнь і творчество Власа Дорошевича" (1975), "К мечам рванулись наши руки" (1978, другое выданне 1985), "Как жить, Лев Николаевич? Очерки о белорусских корреспондентах Льва Толстого" (1979), "Последний год Дениса Фонвизина" (1981), "Народ издревле нам родной. Русские писатели о Белоруссии"... С. Букчын склаў, падрыхтаваў і напісаў уступныя артыкулы да выданняў "Писатели чеховской поры". "Сказки и легенды" В. Дарашэвіча, "Друзьям, отечеству, народу. Поэзия декабристов", "Песнь о Беларуси. Стихи русских советских поэтов".

Нарадзіўся ж Сямён Уладзіміравіч у сяле Валаконаўка Курскай вобласці (Расія). У 1959 годзе скончыў у Мінску СШ № 11 імя А. П. Чэхава. Два гады працаваў фрэзероўшчыкам на Мінскім электратэхнічным заводзе. У 1961 годзе паступіў на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які скончыў завочна ў 1967–м. Быў рэдактарам на Беларускім тэлебачанні, працаваў у Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, адказным сакратаром "Весцяў АН БССР", з'яўляўся старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Заснаваў газету "Европейское время" і быў яе галоўным рэдактарам.

Апошнім часам С. Букчын жыве ў Польшчы. Выступае з яркімі публіцыстычнымі матэрыяламі ў газеце "Народная воля" і іншых незалежных перыядычных выданнях! Віншуючы Сямёна Уладзіміравіча з 60–годдзем, зычым яму моцнага здароўя, жыццёвых і творчых поспехаў!

## "Всемирная литература", № 7

Н. Сяўрук і У. Сяўрук ("Кавалачак чыстага лёду ў моры грязі") дзеляцца ўражаннямі ад новага фільма М. Пташука "У жніўні 44–га". Змешчана заканчэнне рамана Д. –Г. Лаўрыса "Кенгуру". Чытач пазнаёміцца з вершамі Л. Турбінай, Г. фон Гофмансталя, апавяданнем Я. Мораўцвай "Гісторыя маёй сяброўкі", аповесцю А. Савіцкага "Узаранае поле", заканчэннем "Замка душы" св. Тарэза з Авілы. У раздзеле "Літаратурная крытыка" прапануюцца артыкулы М. Рагачоўскай "Пражытыя жыцці" (да літаратурнага партрэта О. Уайльда) і М. Сібіновіча "Лермантаў праз 150 гадоў пасля смерці". Завяршае нумар падборка "Сярод кніг".

ПАЭЗІЯ

## Алена ЯКАЎЛЕВА



●

*Добры вечар, мамачка, я дома,*
*Я прыйшла з далёкіх мне дарог.*
*У кутку да кропелькі знаёмым*
*Дай абняць бабулін абразок.*

*У бязмежных бацькавых абдымках*
*Стаў ружовым цёмна–белы свет,*
*Я гляджу нястомнаю дзяўчынкай,*
*Зноўку адкрываючы сусвет.*

*Тут зусім не паціхэлі гукі.*
*Не сцямнеў мой родны далягляд.*
*Зноўку ціха гладжу – мамы рукі,*
*Што вартуюць мой ружовы сад.*

●

*О, чысціня прадвелікодных хатак,*
*Дзе урачыстасць ступіць напрасткі.*
*Праменьчыкі, нібыта зайчаняткі,*
*Збягаюцца і месцяцца ў куткі.*

*А сонейка прытомленай зайчыхай*
*Прыкоціцца, задрэмле за сталом.*
*І радасна, нябачная, паціху*
*Жытло расквеціць*
*сонечным цяплом.*

*Адбеленыя з густам занавескі*
*Раскрыляцца пад позіркам вясны,*
*Расквеціцца расшытыя пралескі,*
*Расплёскаўшы па хаце*
*пах вясны.*

*Ах, дабрыня прадвелікодных хатак*
*З духмяным пахам*
*смачных піражкоў,*
*Дзе сонейка клубочкі-зайчаняткі*
*Аблашчаць кожнага, хто б ні зайшоў.*

*Паслухаюць з пяшчотай, разуменнем*
*Размову аб жыцці ды аб сяўбе,*
*І шпаркія праменьчыкі*
*натхнення*
*Прытуляць, як маленькую,*
*цябе.*

### Начны ліхтар

*Давай забудзем, хто каго пакінуў,*
*Давай успомнім, хто каго знайшоў,*
*Калі каханне дзіўнаю навінай*
*У нашы сэрцы зоркай увайшло.*
*Звычайны горад стаў*
*дрыготкай казкай,*
*Пабеглі за трамваямі дамы,*
*Начны ліхтар заззяў*
*бязмежнай ласкай,*
*Калі б у сне гублялі словы мы.*

*Ліхтар у парку –*
*як салдацік з казкі –*
*Драўляным сэрцам ажываў ля нас*
*І так дакладна, трапна,*
*без падказкі*
*Ён загараўся, гас і зноўку гас.*

*Ліхтар – драўляны сведка блізарукі*
*Глядзеў скрозь нас*
*кудысьці напрасткі,*
*І ўслед яму ўзляталі нашы рукі,*
*Нібы чатыры*
*ў цемры матылькі.*

*І толькі-толькі раз, ўсяго аднойчы,*
*У жорсткай спрэчцы*
*гледзячы на нас,*
*Стары ліхтар зірнуў*
*зашклёным вочкам*
*І на імгненне стомлена пагас.*

*Усё пагасла рэзка і раптоўна,*
*Агеньчыкам патухла пад даждржом.*
*Вузее сцежка нібы знак раптоўны*
*Майму пытанню –*
*хто каго знайшоў.*

*І толькі наш ліхтар*
*з нямой пяшчотай*
*Гарыць упарта велічным святлом,*
*Бы ўвабраў – збянтэжана, употай*
*Кахання непадробнага жытло.*

*Усё забудзецца, прыстыне успамінам,*
*Ды толькі між ружовых іншых мар*
*Аднойчы ўспомнім наш*
*ліхтар адзіны –*
*Другі такі не знойдзецца ліхтар.*

### Ненапісаны верш

*І зробяць раптам вінаватай*
*Незапісаныя радкі.*
*Да надыходзячага свята*
*Не падалася напрасткі.*

*У мітусні звычайных будзен*
*Праймуць знянацку скразнякі,*
*Душу абудзяць і асудзяць*
*Ненапісаныя радкі.*

*І верш на дыбачках здзіўлення,*
*У шчырым руху адкрыцця*
*Падступіць*
*з позіркам здзіўлення,*
*Як двухгадовае дзіця.*

*Падыдзе, просячы пяшчоты,*
*З ружовым тварыкам цяпла,*
*А я яго ізноў "на потым",*
*На час свабодны, "на пасля".*

*А потым згасне ноч, і ранак*
*Абудзіць раптам боль пакут*
*За мой радок неўзгадаваны,*
*За перакрэслены мной цуд.*

*І, схамянуўшыся, гукаю*
*Раней няўзрошчаны радок,*
*А ён знікае, патухае –*
*За крокам крок,*
*За крокам крок.*

●

*Світанак шчыра зазірне*
*У спрадвечны клопат*
*чалавечы,*
*У свет у матчыным вакне,*
*У хлебны пах старэнькай печы.*

*Расклад вясковага быцця*
*У вечным пошуку знаходкі...*
*Агонь зноў почыркам жыцця*
*Паўтораць почырк*
*шчодрых продкаў.*

●

*Угледаюся ў вочы каровы,*
*Бы ў жывыя скразныя люстэркі*
*З заварожаным*
*светам вясковым,*
*З глыбінёй ўсвядомленай веры,*

*Я складаю раптоўныя словы*
*Аб маім чалавечым сумненні.*
*І шкадуе–ратуе карова*
*Маё сэрца сваім разуменнем.*

*І ў раптоўным*
*спагадным уздыху*
*Я адчую святую параду:*
*Прыхінуцца да зёлачак ціхіх*
*З ачышчэннем, віною, спагадай.*

*Я падам ёй кавалачак хлеба,*
*Што застаўся з дарогі далёкай.*
*Загарыцца вясёлкаю неба*
*І патоне ў расквечаным воку.*



ПАМЯЦЬ

Валянціна КУЛЯШОВА

# У суровы век жыву сурова

— Про Кулешова нужно писать собственной рукой, как пишут собственные стихи! — адказаў з пагардай у голасе Кайсын Кулиеў на маю, такую, мабыць, пошлую ў яго вачах, прапанову: нагаварыць на дыктафон успаміны пра майго бацьку, якіх, як было ўжо зразумела, ён інакш не здолее напісаць.

— Я до сих пор, — зноў загаварыў ён пасля кароткай паўзы, — помню тот мартовский номер журнала "Знамя" за 1943 год, где была опубликована поэма Аркадия Кулешова в переводе Михаила Исаковского. Я понял тогда, что Белоруссия обрела большого поэта, великого поэта!

Словы балкарскага пісьменніка — першае, што ўсплыло ў памяці, калі ў адзінаццатым нумары часопіса "Полымя" за 1946 год я ўбачыла артыкул У. Фарберава. Цікава, што праўкі хімічным алоўкам зроблены рукой Куляшова. Калі меркаваць па іх колькасці і характары, то можна дапусціць, што нейкі ўдзел у напісанні ён прымаў.

Не ведаю, ці прыцягнуў бы да сябе маю ўвагу стары часопіс бацькавага архіва, калі б адтуль не выпалі такія ж, як ён сам, пажоўклыя і паплямленыя газетныя выразкі. Прыгледзеўшыся, я зразумела, што плямы — пацёкі крыві, а ў руках у мяне — выразкі з франтавой газеты. "У гады Вялікай Айчыннай вайны я працаваў у газеце "Знамя Советов" на Паўночна-Заходнім фронце ў якасці пісьменніка-франтавіка. Штодзённай чырвонаармейскай газеце патрэбны быў аператыўны матэрыял, які па гарачых слядах асвятляў ход падзей, вучыў байцоў змагацца і перамагаць ворага, які рваўся да Ленінграда", — напіша ў сямідзесятых Аркадзь Куляшоў. Артыкул Фарберава "Паэт-воін" раскрывае перад намі світак падзей, пра якія так лаканічна паведамляе сам паэт:

*Идти устали маленькие ноги,*
*Но он послушно продолжает путь.*
*Еще вчера хотелось близ дороги*
*Ему в ромашках полевых уснуть.*
*I мать несла его, теряя силы,*
*В пути минуты длились, словно дни,*
*Все время сыну непонятно было,*
*Зачем свой дом покинули они.*
*Что значат взрывы, плач, дорога эта?*
*I чем он хуже остальных ребят,*
*Что на траве зеленой у кювета,*
*Раскинув руки, рядом с мамой спят?*
*Как тяжело выслушивать вопросы*
*Могла ли малышу ответить мать,*
*Что этим детям, спящим у березы,*
*Что этим мамам никогда не встать?*
*Но сын вопросы задавал упрямо,*
*I кто-то объяснил ему в пути,*
*Что это спали неживые мамы,*
*От бомбы не успевшие уйти.*
*I он задумался под лязг машин железных,*
*Как будто горе взрослых понял вдруг, —*
*В его глазах, недавно безмятежных,*
*Уже блуждал осознанный испуг.*
*Так детство кончилось.*
*Он прежним больше не был.*
*Он шел и шел. И чтобы мать спасти,*
*Следил ревниво за июньским небом*
*Малыш, седой от пыли, лет шести.*

**«На Минском шоссе», 1941**

Верш — першае, што я ўбачыла, разгарнуўшы часопіс наўздагад. "Стаяў ліпень 1941-га. Пасля жорсткіх баёў войскі нашай арміі адышлі ў раён Старой Русы. Штаб арміі размясціўся недалёка ад перадавых пазіцый у жывапісным лесе ля вёскі Меднікава. Побач знаходзілася і рэдакцыя армейскай газеты "Сцяг Савецтаў". Дзень і ноч не змаўкаў грукат артылерыі, стральба кулямётаў.

Пасля адной жорсткай бамбардзіроўкі, калі супрацоўнікі рэдакцыі толькі што вярнуліся з укрыццяў, да мяне ў шалаш, — піша Фарбераў, — увайшоў чалавек ніжэй сярэдняга росту, апрануты ў форму малодшага палітрука.

— Ці магу я бачыць адказнага рэдактара? — запытаў афіцэр.

— Я — рэдактар.

— Добры дзень, я — Аркадзь Куляшоў.

Не ўтаю, што даклад і выпраўка прыйшоўшага афіцэра мяне некалькі збянтэжылі. Гімнасцёрка на ім мела многа складак, пілотка была няправільна надзета — зорка знаходзілася недзе над правым вухам.

— Вы, пэўна, у арміі нядаўна? — запытаў я. — Відаць, здорава вас напалохала бамбардзіроўка?

— Першае — здагадаліся, у другім памыляецеся.

Тон адказу і чырвань, якая выступіла на бледных шчоках афіцэра, неяк адразу выклікалі сімпатыю да гэтага чалавека. Куляшоў сказаў, што ён толькі што прыбыў з групай палітработнікаў і накіраваны да мяне аддзелам кадраў для перагавораў аб рабоце ў рэдакцыі".

— Мы сустрэліся з тваім бацькам, — расказваў мне зямляк Куляшова, паэт-франтавік Аляксей Русецкі, — у сярэдзіне ліпеня на прывакзальнай плошчы ў Калініне. Я стаяў у чарзе па морс. Раптам угледзеў Куляшова. У вайсковай форме, з даваенным скураным паліто праз руку, ён накіроўваўся да мяне. "Бачыш, дзе мы апынуліся, "хлопцы апошняй вайны"?" — сказаў паэт замест прывітання.

Пра вайну ён пачуў у Хоцімску, дзе адпачываў у бацькоў. Адразу накіраваўся ў Мінск, да сям'і. Не знайшоўшы іх дома, пайшоў шукаць ваенкамат, каб трапіць у армію. Пакуль пераходзіў ад аднаго зачыненага ваенкамата да другога, пачалася бамбардзіроўка. Падзеі таго дня знайшлі адбіццё ў паэме "Сцяг брыгады":

*I пазнаць я не мог*
*Роднай вуліцы, ліп і каштанаў,*
*Рэха тысячы ног*
*Аглушыла мяне нечакана,*
*Падхапіла мяне, маё гора,*
*Жаданне, трывогі*
*I панесла за горад*
*Па бітаму шклу мае ногі.*

Так і не знайшоўшы ваенкамата, які б дзейнічаў, Куляшоў з выпадковымі спадарожнікамі накіраваўся ў Калодзішчы, дзе знаходзілася вайсковая частка. "—Пакуль мы размаўлялі, — расказваў далей Аляксей Сцяпанавіч, — маю ўвагу прыцягнулі засмяглыя вусны Аркадзя... Зараз я ўжо ведаю, — дадаў ён нечакана, — што падобныя вусны бываюць у інфарктнікаў..."

Адзін верш даваеннай лірыкі Куляшова стала звяртаў на сябе маю ўвагу. Не столькі тэматыкай, якою, хутчэй, здзіўляў, колькі фіксацыяй эмоцыі, неўласцівай для юнака:

*Выходжу я ў разведку —*
*Рашучы заўтра бой.*
*Ты, ранак,*
*Будзь за сведку,*
*Услед ідзі за мной.*
*. . . . . . . . . . . .*
*У родную краіну*
*Дарогі перайнач.*
*А я? А я загіну.*
*А ты?*
*А ты не плач.*

**"Ранак", 1940**

За поўнай адсутнасцю эмацыйнай афарбоўкі апошніх радкоў прачытваецца вынашанасць тэрмінальнай думкі, падрыхтаваная, мабыць, сумнавядомымі падзеямі трыццатых, якія і Аркадзю Куляшову каштавалі страты пяці чалавек з бліжэйшага асяроддзя: сяброў-паэтаў Юлія Таўбіна і Змітрака Астапенкі, дзядзькі Івана Куляшова, сваякоў Сцяпана Вільчыка і Платона Галавача.

Дзякуючы ўсведамленню сваёй трывожнай сітуацыі, мой бацька быў супраць афіцыйнай рэгістрацыі шлюбу з Ксеніяй Вечар, маёй маці, аж да 1951 года, хоць пабраліся яны ў 1935-м.

"—Калі мяне раптам арыштуюць, — наказваў ён жонцы, — ты павінна будзеш ад мяне адрачыся, тады табе і дзецям удасца, магчыма, ацалець."

З такім падсвядомым адчуваннем небяспекі, якое магло з'явіцца ў паэта ўжо ў трыццатым, калі раніцой прыбег Платон Галавач і, плачучы, паведаміў пра спробу самагубства Янкі Купалы, звязаны, не выключана, бацькаў фаталізм у адносінах да свайго лёсу, тым больш, што сам ён нарадзіўся ў год вайны.

Тая вайна была Першай сусветнай. Аднак рэаліі існавалі ў біяграфіі душы Куляшова.

Сам ён тых падзей памятаць, натуральна, не мог. Яны ўвайшлі ў яго свядомасць праз памяць пакалення бацькоў. Іх страты і нядолі.

Узгадаю толькі адзін з тых лёсаў, не з самых трагічных, праўда, але з такіх, што найбольш балюча закранаюць сэрцы ўражлівых дзяцей.

Сяргей Фаміч Злесец-Ратабыльскі быў дзядзькам Аркадзя па маці, Кацярыне Фамінічне. У 1916-м ён знаходзіўся пад Магілёвам у акопах пярэдняга краю, дзе перажыў газавую атаку. Газам быў іпрыт, які, насуперак міжнародным пагадненням, выкарыстала германскае камандаванне.

Бацькаў дзядзька, чалавек па-купалаўску вытанчанай шляхецкай прыгажосці і адпаведнай духоўнасці, які па самой прыродзе сваёй не мог не выклікаць у людзях лірычных пачуццяў, амаль страціў зрок і ўсё сваё кароткае жыццё выплёўваў спаленыя лёгкія.

Комплекс пачуццяў, апасродкавана выкліканых абставінамі вайны, знаходзіў водгук ужо ў ранняй лірыцы Куляшова. Паэма "Крыўда" стала "хітом" беларускай паэзіі 1930 г., а "Хлопцы апошняй вайны" — 1940-га.

*Газы ўсплаўляй, як туман лугавы.*
*Акопы ўзўляй родным домам,*
*Дым — вечаровай хмарай.*
*Гарматы — вясновым громам —*

пісаў у апошняй з прыгаданых паэм шаснаццацігадовы юнак, які быў удзельнікам вайны пакуль што толькі "віртуальна".

Нават павярхоўны, а ў гэтым выпадку і аднабаковы, аналіз творчасці Куляшова гаворыць пра тое, што ён быў чалавекам хуткай і глыбокай псіхічнай рэакцыі, што, мабыць, і абумовіла яго "хранічнае" наватарства ў паэзіі.

Летам мінулага года на Нарач, на лецішча, дзе мы з маці адпачывалі, завітаў літаратуразнаўца Мікола Мікуліч, каб запісаць на дыктафон сваю размову з жонкай Аркадзя Куляшова. На пытанне Мікуліча глыбока асабістага, можа, нават інтымнага характару мая маці з нечаканай гатоўнасцю і радасцю ў голасе адказала:

— Аркадзь прывабіў мяне вышынёй свайго розуму!

Тады я зразумела, што значаць гены. Дэкласаванае, малаадукаванае шляхецкае дзіця, трапіўшы дванаццацігадовай дзяўчынкай у адпаведнае асяроддзе (інтэлігентную сям'ю Платона Галавача), нібы набыла штуршок да паскоранага развіцця і здолела ацаніць у чалавеку самае галоўнае — розум і талент.

Што да 1941-га, то ў бацькі адносна яго здаўна былі асабістыя прадчуванні.

Ён нарадзіўся праз стагоддзе пасля свайго літаратурнага куміра, генія рускай паэзіі Міхаіла Лермантава. Беларуская паэтэса Эдзі Агняцвет за ўспамінах пра "сабрата па пяры" і аднакашніка па-Педінстытуце ўзгадвае факт псіхалагічнай самаідэнтыфікацыі беларускага паэта з рускім і сцвярджае, быццам Куляшоў лічыў, што паўторыць лёс Лермантава цалкам: загіне ў 1941-м.

У апошні месяц свайго жыцця бацька раптам пачаў расказваць мне найбольш драматычныя эпізоды яго жыцця, пра якія раней я не ведала, бо бацька даўно зразумеў, што адкрытасць — вялікая небяспека для чалавека навідавоку. Сэнс таго, што адбывалася тады паміж намі, я зразумела толькі ў студзені 1984-га, калі пачала пісаць "Кнігу пра бацьку" (яна выйшла пад назвай "Лясному рэху праўду раскажу" ў 1989-м).

А тады, у снежні 1977-га, ён выстаўляў перада мной вехі біяграфіі сваёй душы, не вельмі, трэба думаць, спадзеючыся, што яны некалі спатрэбяцца слухачцы, але і не адмаўляючы сабе ў надзеі.

Там быў расказ пра тое, як спадарожнікі пасля марных спроб знайсці ваенкамат у Мінску накіраваліся ў Калодзішчы.

Там, аднак, ужо нікога не было, а "па-вясноваму зялёная трава вайсковага пляца была чырвонай ад пазрываных пятліцаў".

У бацькі і зараз перахапіла дыханне і ён так і не змог расказаць, як, сутыкнуўшыся з фактам дэзерцірства арміі, страціў прытомнасць, і хлопцы тры дні неслі яго на саматробных насілках праз барысаўскія балоты, бо па дарогах шнырылі нямецкія дыверсанты, пераапранутыя ў форму афіцэраў Чырвонай Арміі.

Наколькі масавай была гэтая з'ява на шашы Мінск—Масква, можна меркаваць па тым, што на працягу жыцця я чула пра нямецкіх дыверсантаў у чырвонаармейскай форме некалькі разоў толькі з вуснаў родных і знаёмых. Так, 24 чэрвеня, калі пачалася бамбардзіроўка Мінска, апісаная Куляшовым, мой будучы свёкар, Філіп Іванавіч Бязручкін, "кінуўшы" ў службовую палутарку жонку з сынам, паімчаў на ўсход.

У адкрытым кузаве грузавіка знаходзіўся сейф з дакументацыяй таго авіяцыйнага завода, які потым разгарнуў сваю дзейнасць у Каменск-Уральску.

Прыйшлося даволі доўга пятляць па някошаным ніве, ухіляючыся ад бомбаў, што сыпаліся з неба, перш чым удалося зноў выехаць на шашу. Рухаліся ў натоўпе бежанцаў. Браць у машыну старонніх інструкцыя забараняла. Але раптам "прагаласавалі" ваенныя — двое лейтэнантаў-лётчыкаў. Пры праверцы нашым вайсковым пастом высветлілася, што ў машыну селі дыверсанты, чыю ўвагу прыцягнуў, мабыць, сейф.

А пра бацькаў інфаркт сорак першага, як і пра насілкі, я даведалася толькі ў 1980-м ад Пімена Панчанкі, якому той расказаў гісторыю свайго адыходу з Мінска яшчэ ў вайну і без купюраў.

"Вораг ірваўся і ірваўся наперад. Жорсткасць баёў з кожным днём узрастала. Немцы, несучы велізарныя страты, у пачатку жніўня авалодалі Старой Русай, — сведчыць Фарбераў. — Кожны дзень баёў нараджаў герояў. Ім Куляшоў прысвячаў свае франтавыя вершы. У "Песні аб безыменным героі" — подзвігу мінамётчыка. Верш быў надрукаваны назаўтра пасля ўзгаданых у ім падзей:

*Выходят фашисты в атаку из пущи,*
*Рожь топчут і мнут сапоги,*
*Пьют теплую водку —*
*для храбрости пущей —*
*Из фляг перегретых враги.*
*У каждого череп на черной петлице,*
*Дымит папироска в зубах.*
*Но наш минометчик*
*врагов не страшится,*
*За камнями ждет их в кустах.*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Его окружили, и он молчаливо*
*Прощался с родимой землей,*
*Следя, как дымит подожженная нива*
*Над северной русской рекой.*
*Последнюю мину ударом о камень*
*Взорвал он в кустах у реки,*
*Мстя гадам проклятым, своими руками*
*Он их растерзал на куски.*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*

**1941**

"Песня", — піша далей Фарбераў, — знайшла жывейшы водгук сярод воінаў. Яе спявалі на матыў "Матроса Железняка". Бываючы ў часцях, паэт мог чуць як байцы ў хвіліны зацішша спявалі яго песню. Гэтая песня, як і другая, створаная Куляшовым ў 1942 годзе аб баявых справах нашай арміі, сталі любімымі ў асяроддзі воінаў".

"Калегі, — як сведчыць Фарбераў, — любілі Куляшова за прастату душэўную, за скромнасць, за бездакорнасць у выкананні любога задання рэдакцыі, за ініцыятыву".

"— Але аднаго, — піша далей сведка, — ніяк не мог пераадолець паэт — пісаў ён вершы лежачы. Неяк для газеты тэрмінова спатрэбілася чатырохрадкоўе. Я выклікаў Куляшова і даручыў яму гэта зрабіць. Ён згадзіўся. Праз гадзіну, жадаючы даведацца аб выніку майго задання, я пачаў шукаць паэта. Знайшоў я яго ляжачым пад кустом. Першае маё ўражанне было, што паэт спіць. Але калі я падышоў да яго, то пераканаўся, што гэта не так. Куляшоў ляжаў тварам угару, утаропіўшыся позіркам у блакітную вышыню.

— Як чатырохрадкоўе? — запытаў я.

— Зараз будзе гатова, Уладзімір Барысавіч, — адказаў ён.

Праз некалькі хвілін Куляшоў перадаў мне патрэбны матэрыял".

Калі верыць Фарбераву, Куляшоў атрымліваў дзесяткі пісем, у якіх чытачы дзякавалі яму "за цёплыя пранікнёныя вершы, за задавальненне, якое дастаўлялі ім яго творы".

Адчуванне запатрабаванасці сваёй працы падштурхоўвала паэта да далейшых пошукаў у галіне новых газетных жанраў.

"Вёска Свінарой. Недалёка ў лесе размясцілася рэдакцыя армейскай газеты. Тут была праведзена першая нарада супрацоўнікаў. Гаворка ішла пра новыя, гумарыстычныя формы ў газеце. Пасля абмеркавання спыніліся на прапанове Куляшова: завесці ў газеце раздзел, у якім асвятляліся б баявыя справы аднаго байца. Быў прыняты варыянт загалоўка, прапанаваны Куляшовым: "Рассказ о том, как бьет врагов на фронте Алексей Петров".

Такіх фельетонаў было змешчана ў газеце каля васьмідзесяці".

"І хаця Аляксей Пятроў быў героем, як кажуць, выдуманым, — піша Куляшоў у артыкуле "Франтавы рэпартаж", — салдаты яго любілі і ў існаванне яго верылі, таму што ўчынкі яго не з'яўляліся вынікам паэтычнай фантазіі, а грунтаваліся на баявых выпадках, што мелі месца на тым ці іншым участку фронту, што займала 11 Армія. Вершы таксама мелі канкрэтны адрас. І вадзіцель Палякоў, і разведчык Розаў, і повар Жукаў — прозвішчы не выдуманыя. Аб справах гэтых салдат і афіцэраў зналі, вядома, іх

(Працяг на стар 14 — 15)

## Шматграннасць таленту

### ЦІХАНУ ПАНЦЮШЭНКУ — 80

**Нарадзіўся Ціхан Антонавіч у горадзе Лебядзін Сумскай вобласці (Украіна). Пасля заканчэння сярэдняй школы праходзіў вайсковую службу ў Севастопалі, дзе яго і заспела вайна. У адным з баёў быў цяжка паранены, трапіў у палон, апынуўся ў Румыніі. У 1944 годзе ўцёк з лагера ваеннапалонных. Мабілізаваны ў армію, удзельнічаў у баях за вызваленне Венгрыі, Аўстрыі, Чэхаславакіі. Пасля заканчэння ў 1952 годзе Харкаўскага медыцынскага інстытута Ц. Панцюшэнка працаваў у Гродне ардынатарам хірургічнага аддзялення абласной бальніцы. З 1965 года жыве ў Мінску. Быў старшым навуковым супрацоўнікам Навукова-даследчага інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі Міністэрства аховы здароўя БССР, на іншых адказных пасадах. Аўтар каля 300 навуковых прац, сярод іх восем манаграфій. На навуковым рахунку Ц. Панцюшэнкі сем вынаходніцтваў. Доктар медыцынскіх навук, прафесар. Літаратурную працу пачаў у 1960-я гады. З першым апавяданнем "Водпуск" выступіў у 1978 годзе ў газеце "Звязда". Як нарысіст дэбютаваў у 1975 годзе на старонках часопіса "Полымя" (нарыс "Бітва за жыццё"). Ц. Панцюшэнка ў сваіх мастацкіх творах аддае перавагу ўласна перажытаму. У сваёй першай кнізе, а ёй стала аповесць "Тайна древних руин" (1983), праўдзіва ўзнавіў паўсядзённыя будні аднаго з падраздзяленняў берагавой аховы. Блізкасць да дакументальнай асновы адчуваецца і ў раманах "Мужчины не плачут" (1986) і "Главный врач" (1990). Разам з тым гэта па-сапраўднаму глыбокія мастацкія творы, у якіх паўстае само жыццё такім, якім яно ёсць, вымалеваны цікавыя персанажы. З 80-годдзем, шаноўны Ціхан Антонавіч! Яшчэ доўгага веку вам, новых поспехаў у навуцы і творчасці!**

## "Беларусам адчуваў сябе заўсёды..."

### ВАСІЛЮ ПЕТРУЧУКУ — 75

**Выпадак не сказаць каб часты ў літаратуры, але разам з тым і адзінкавым яго не назавеш. Хоць і рэдка, ды з'яўляюцца пісьменнікі, якіх можна назваць аўтарамі адной кнігі. Ёсць усе падставы так гаварыць і пра Васіля Петручука. Яго, у многім аўтабіяграфічная, аповесць "Пожня" выдавалася спачатку на польскай мове, двойчы выходзіла па-беларуску: у Беластоку (1987) і ў Мінску, у "Мастацкай літаратуры" (1991) і прынесла пісьменніку заслужаную вядомасць як на Радзіме, так і за яе межамі. Аўтар напісаў яшчэ толькі некалькі апавяданняў і навел, не кажучы, зразумела, пра публіцыстычныя выступленні, краязнаўчыя нарысы на старонках беластоцкай "Нівы". Працяг "Пожні" — аповесць "Паганец". А нарадзіўся В. Петручук 23 жніўня 1926 года ў вёсцы Грабавец на Беласточчыне. Дату ўдакладніў пазней, калі прайшоў нямала шляхоў-дарог. Маленства ж меў сіроцкае, не да таго было, каб падобныя "дробязі" памятаць. Гэтым болем аб зусім не радасным, слёзным маленстве напоўнены і пачатак "Пожні": "Нарадзіўся я ў 1926 годзе, але ніхто не ведаў, у якім месяцы; і мяне таксама гэта не цікавіла. Дзядзіна гаварыла, што "дзесьці летам..." Ведаю, што, калі жыву, значыцца, нарадзіўся я, — і тое, што было мне ўсяго паўтара года, калі памерла мая маці. Пасля смерці маёй маці мой лёс цікавіў сваякоў столькі, колькі леташні снег". З гэтай самай непрыкаянасці, жыццёвай няўтульнасці і беспрытульнасці, В. Петручук доўга шукаў сваё месца ў жыцці. Так, спачатку ў жыцці, бо, каб прыйсці ў літаратуру, яму найперш неабходна было ўпэўніцца, што зусім не лішні на зямлі. На доўгі час лёс звязаў з арміяй: закончыў афіцэрскую школу. Толькі ў 1965 годзе звольніўся ў запас, пераехаў з Варшавы ў Беласток. Зблізіўся з "Нівай", цікавіўся даўно: "Беларусам жа сябе адчуваў заўсёды, дзе б ні жыў і дзе б ні працаваў. Маю на ўвазе, вядома, сваё дарослае жыццё. Прытым аніякія крутыя павароты палітычнага характару не змянілі мяне, хаця я ў іх браў непасрэдны ўдзел як афіцэр. Не перамяніла мяне і польскамоўнае асяроддзе, у якім я жыў і працаваў". Ад нататак, артыкулаў непрыкметна перайшоў да прозы. Першае апавяданне "Закалядаваў" надрукаваў у 1975 годзе. Так з асобных апавяданняў, замалёвак і пачала нараджацца аповесць "Пожня", якая стала выпакутаванай споведдзю аб цяжкім маленстве, аб пакручастым лёсе чалавека.**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# У суровы век жыву сурова

*(Працяг. Пачатак на стар 13)*

таварышы па ўзводзе, роце, палку, прыкладам іх, што знайшоў водгук у газеце, ганарыліся".

У Аляксеі Пятрове байцы бачылі майстра сваёй справы і сапраўднага смельчака. Неўзабаве ён пачаў успрымацца чытачамі як жывы чалавек.

"Напярэдадні новага 1942 года, — піша Фарбераў, — да мяне прыйшоў работнік Ваенгандлю і заявіў:

— Мяне прыслаў начальнік Ваенгандлю з просьбай даведацца пра адрас Аляксея Пятрова. Мы хочам на Новы год паслаць яму пасылку.

Калі я выказаў здзіўленне, работнік Ваенгандлю адказаў:

— Як жа, такога героя і каб мы, Ваенгандаль, не пачаставалі віном і шакаладам, гэта ж будзе злачынства.

Але яшчэ больш здзівіўся ваенгандлевец, калі я яму сказаў, што адраса даць не магу, бо байца Аляксея Пятрова не існуе".

"Асаблівы поспех, — цытую таго ж аўтара, — мела другая гумарыстычная форма, актыўнейшым стваральнікам і ўдзельнікам якой быў Аркадзь Куляшоў. Пры складанні нумара, прысвечанага 24 гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі, у некаторых супрацоўнікаў рэдакцыі паявілася думка даць на чацвёртай паласе пародыю на фашысцкую газету. Думалі-гадалі і рашылі назваць гэты гумарыстычны куток "Вралишер Тарабахтер", парадзіруючы загаловак гітлераўскай газеты "Фелькишер Беобахтер". Паяўленне ў свет газеты з гэтым матэрыялам выклікала фурор". Гэты "маленькі", як пяшчотна называў бацьку Аляксандр Трыфанавіч, аказаўся вельмі з'едлівым журналістам.

Можна дапусціць, што эмацыйнаму ўздзеянню твораў Аркадзя Куляшова на чытача-вайскоўца па гэты бок фронту, адпавядаў не меншы па сіле адмоўнай энергетыкі водгук па той бок. А там, у акупацыі, заставаліся блізкія...

Хрысціна Афанасенка, выпускніца Елавецкай школы, дзе працавала Кацярына Фамінічна Ратабыльская, апошні перадваенны год жыла ў нашай сям'і, у Мінску, даглядаючы дзяцей.

23 мая 1941 года бацька з'ехаў у Хоцімск да бацькоў. Ён з'явіўся на парозе нашай кватэры на Маскоўскай, 24 увечары 23 чэрвеня, і першае, што сказаў Хрысціне, якая адчыніла яму дзверы, было:

— Уцякай адгэтуль!

"—На цягнік я ўжо не села, — расказвала мне Хрысціна ў 1972 годзе, — і да Хоцімска дабіралася месяц, у кроў збіўшы ногі, бо гумовыя калошы, у якіх я пачынала сваю пешую "вандроўку", вытрымалі толькі палову шляху."

Вось, нарэшце, родны Елавец. У гэтай маленькай вёсачцы на ўскраіне нават беларускай цывілізацыі можна, здаецца, і адпачыць. Але ж дзе там! Яе арыштоўвае і тыдзень трымае паліцыя. Вядома, што з першых дзён вайны мы, жонка і дзеці Аркадзя Куляшова, жылі ў Хоцімску ў бацькоў паэта, а перад самым прыходам немцаў раптам зніклі. Былі ўсе падставы меркаваць, што мы недзе хаваемся.

Бацька ўсё жыццё лічыў сябе абавязаны Алесю Кучару за тое, што той ўратаваў яго сям'ю.

Мая маці, вялікая прыхільніца ваеннага генія Напалеона, лічыла, што немец да Хоцімска не дойдзе, і мы бесклапотна адпачывалі ў гасціннай хаце старэйшых Куляшовых: пілі жывільны сырадой і яйкі з-пад бабунчынай курачкі, елі вясковы тварог з дзедавым мёдам і пасвіліся ў ягадніку.

Калі сярод дарослых заходзіла гаворка пра небяспеку, — пачыналася дыскусія. Маці нагадвалі, што немец ужо блізка.

— Гітлер, — спакойна пацягваючы сырадой, канстатавала яна, — не Напалеон!

— Але ж Напалеон дайшоў да Масквы! — даводзіў Аляксандр Мікалаевіч, убіраючыся ў пчалярскія даспехі.

— Дык то ж быў Геній! — ставіла кропку ў спрэчцы мая маці.

Яе ўзнёслы сафізм мог каштаваць нам жыцця, бо Хрысціну распытвалі пра нас, жонку і дзяцей Куляшова, якіх, як сказала мне яна, мелі намер павесіць.

Памятаю, як у спякотны ліпеньскі поўдзень мяне гвалтам цягнулі ад рэчкі, дзе я бавілася ў вадзе між драўлянымі палямі разбуранага моста.

Калі мы з Тоняй (Антанінай Аляксандраўнай Куляшовай, бацькавай зводнай сястрой, якая дагэтуль жыве ў Хоцімску) убеглі ў хату, там прыемна пахла смажаным. Бабуля ліхаманкава завіхалася ля стала.

Перад хатай стаяла палутарка, побач з ёю смакталі папіросы трое заклапочаных мужчын. Яны рашуча адмовіліся не толькі частавацца, але нават заходзіць у хату. Выпілі адзіна па шклянцы малака, якое ім вынесла Надзея Аляксандраўна, бацькава родная сястра. Вайна, дарэчы, дагнала яе мужа ў лютым 1951-га.

Івана Іосіфавіча Маслоўскага, настаўніка матэматыкі ў Лапічах, выклікалі раптам у Асіповіцкі НКУС. У вайну ён пэўны час знаходзіўся ў нямецкім палоне. Па дарозе ў Асіповічы гэты мужны чалавек загінуў пад коламі цягніка, удала сімулюючы няшчасны выпадак на чыгунцы.

Свой адказ затрымацца мужчыны патлумачылі тым, што Хоцімск знаходзіцца ў акружэнні, бо нямецкія танкі прайшлі ўжо на Рослаў. Нас, дзяцей, літаральна пакідалі ў кузаў, куды села мая маці і Надзея Аляксандраўна. Ехаць "у белы свет" больш ніхто не згадзіўся. Бабуля адно паспела — укінуць у кузаў сваю вялізную старасвецкую хусту з воўны і... алавянны чайнік. Яны нам вельмі спатрэбіліся, асабліва калі ехалі ўначы на адкрытай артылерыйскай платформе з Клінцоў у Бранск.

Машына аказалася рэдакцыйнай. На ёй М. В. Зімянін з супрацоўнікамі вывозіў архіў рэдакцыі газеты "Чырвоная змена". А. Кучар падказаў, што сям'я Аркадзя Куляшова знаходзіцца ў Хоцімску і трэба было б за ёю заехаць. Зімянін, які не меў права браць у службовую машыну староннiх, згадзіўся толькі тады, калі да прапаноў Кучара далучыўся трэці член калектыву, журналіст, пра якога мы зараз ведаем толькі, што прозвішча яго пачыналася на літару М і што ён не вярнуўся з вайны...

Яны давезлі нас да Клінцоў, бо больш блізкая Унеча была ўжо захоплена немцамі.

Не пажадаўшы ехаць з намі "ў белы свет", гаспадарлівыя бацькі Аркадзя Куляшова паставілі сябе і малодшых дзяцей Антаніну і Уладзіміра ў не менш складаную сітуацыю, якая кожнаму з іх магла каштаваць жыцця.

Пачалося з таго, што Аляксандр Мікалаевіч раптам даведаўся, што сход насельніцтва вёскі Малы Хоцімск абраў яго камендантам. Дзед мой на тым сходзе прысутнічаць не мог, бо жыў у дзесяці кіламетрах ад гэтай вёскі, у мястэчку Хоцімск.

Калі пазней ён спрабаваў высветліць, з чыёй ласкі трапіў на гэтую "пасаду", высветлілася, што ніхто з малахацімчан не меў да гэтага дачынення, а нехта ўспомніў, што імя Куляшова выгукнуў на сходзе невядомы мужчына.

На пасадзе каменданта А. М. Куляшоў пратрымаўся 41 дзень, выкарыстоўваючы яе па-куляшоўску спецыфічна.

У лісце да майго бацькі, напісаным у шасцідзесятых і прыйшоўшым з Іркуцка, жанчына расказала пра свой візіт да Аляксандра Мікалаевіча ў першыя дні яго каменданцтва. Яна апісвае цёплы спагадлівы позірк вачэй свайго візаві, калі ён слухаў расказ пра яе пакуты (на руках маладой жанчыны засталіся маці і пяцёра малых дзяцей). На развітанне Куляшоў працягнуў наведвальніцы запіску, адрасаваную вартаўніку калгаснага склада: "Подательнице сего выдать два пуда муки как многодетной жене красноармейца".

Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, калі б аднойчы да Кацярыны Фамінічны не завітаў з Малога Хоцімска яе колішні вучань. Ён прыйшоў папярэдзіць настаўніцу, што партызаны збіраюцца пакараць каменданта. Пачакаўшы, пакуль муж павячэрае, Кацярына Фамінічна выправіла яго да сваёй сястры Соф'і ў вёску Дарагая, што на Крычаўшчыне.

Уначы сапраўды прыйшлі. Страшна раз'юшыліся, не знайшоўшы Аляксандра Мікалаевіча, і... скінулі ў студню на вуліцы выпадковага прахожага.

Прайшлі дзесяцігоддзі, перш чым мы сталі здагадвацца, што тое, што адбывалася з бацькам Аркадзя Куляшова, па почырку вельмі нагадвае правакацыю накшталт той, якая дасягнула сваёй мэты ў выпадку з Янкам Купалам.

Не буду паглыбляцца ў разважанні наконт таго, хто, калі здагадка слушная, задумваў аперацыю, хто і як яе праводзіў, хто каго пры гэтым выкарыстоўваў і нашто было тапіць таго няшчасніка.

Калі браць па вялікім рахунку, то, мабыць, гэта была спланаваная акцыя.

Ведала ж аднекуль Н. Бялькевіч, жонка П. Глебкі, якая ў вайну працавала на беларускім радыё ў Мінску, што ў Маскве рыхтуецца нешта супраць Янкі Купалы. І не толькі ведала, а здолела папярэдзіць мужа не ўвязвацца ў падзеі, якія насоўваюцца.

Янка Купала — знакавая фігура, гэта ў першую чаргу вялікая постаць беларускай культуры. Ён той, хто вынес у ХХ стагоддзе ідэі Каліноўскага, якія завіслі ў часе, бо не былі спраўджаны своечасова, калі аналагічныя працэсы абнаўлення паспяхова прайшлі па ўсёй Еўропе.

Паміж Янкам Купалам і Аркадзем Куляшовым у той перыяд сапраўды існавала істотнае падабенства. Гэта іх вершы закідваліся ў якасці ўлётак за лінію фронту. Я маю на ўвазе купалаўскіх "Партызанаў" і куляшоўскія "Ліст з палону", "Над брацкай магілай" і "Баладу аб чатырох заложніках".

Больш таго, у канцы 1943-га за лінію фронту павандравала і паэма "Сцяг брыгады", але трапіла яна не ў нашы лясы, дзе творы сваіх паэтаў чытала ўсё насельніцтва Беларусі, уключаючы партызанаў і паліцыю, а да партызанаў Сербіі.

Пра гэта яшчэ ў 1976 годзе расказаў на VII з'ездзе пісьменнікаў Ніл Гілевіч — згадваючы сваю гаворку з чарнагорскім паэтам Радаванам Зогавічам: " —Дзесьці ў канцы 43-га ў Чарнагорыю, дзе мы вялі цяжкія баі, савецкі самалёт даставіў пазарэз патрэбныя нам боепрыпасы і медыкаменты — і тое і другое катастрафічна скончылася. Там аказалася і некалькі новых савецкіх кніг аб вайне, у тым ліку — паэма Куляшова "Сцяг брыгады" ў перакладзе Ісакоўскага. Паэма літаральна ашаламіла мяне. Я чытаў яе і перачытваў шмат разоў, чытаў таварышам па зброі, якія трошкі разумелі рускую мову, а для тых, хто не разумеў, асобныя мясціны сам перакладаў на сербскую. Гэта была паэзія, якая радніла нас з савецкімі братамі — радніла ў нянавісці да фашыстаў і веры ў перамогу, паэзія, якая прыдавала нам духоўнай моцы і сілы..."

Шчыры прыхільнік паэзіі Аркадзя Куляшова, паэт Мікола Аўрамчык расказаў мне, быццам мой бацька лічыў, што сябра яго юнацтва, паэт Змітрок Астапенка, арыштаваны ў 1933 годзе і высланы ў Сібір, — жывы.

Вядома, што Астапенку ўдалося ўцячы з лагера і трапіць на фронт. У 1944-м ён быццам бы загінуў у Славацкіх Татрах, дзе змагаўся ў патрызанскім атрадзе. Гісторыя жыцця гэтага неардынарнага чалавека надзвычай цікавая, але гаворка зараз не пра гэта.

Пасля вайны невядома адкуль у Саюзе пісьменнікаў з'явілася паэма Змітрака Астапенкі "Эдэм" і была надрукавана.

Бацьку ўразіла і ўсцешыла ў ёй тое, што сябра выкарыстаў у сваёй паэме адзін фармальны прыём са "Сцяга брыгады". Куляшоў разумеў, што выкарыстоўваючы ў паэме яго наватарскі прыём, Астапенка паведамляў, што чытаў "Сцяг брыгады", што ўхваляе твор, і што сам ён жывы. На жаль, бацька, мабыць, памыляўся, лічачы, што яго сябра перажыў вайну. Куляшоў не ведаў, што той мог пазнаёміцца са "Сцягам брыгады" яшчэ ў канцы 43-га ў Славакіі, як Зогавіч у Чарнагорыі.

Вяртаючыся да героя нашай гаворкі, скажу, што яму пашчасціла ў тым, што з пачатку вайны ён апынуўся на перадавой у калектыве, які складаўся з шасці чалавек. Навідавоку ён быў недасягальны для рэпрэсіўнай машыны ні з таго, ні з гэтага боку.

А ўявіце сабе, што ў тую студню скінулі Аляксандра Мікалаевіча? Няцяжка здагадацца, што чакала Аркадзя Куляшова пасля вайны, калі б яго бацька быў знішчаны партызанамі як здраднік.

Мяне заўсёды здзіўляла, чаму прэмію за лепшую ваенную паэму Куляшоў атрымаў не ў 1945 годзе. Магчыма, і таму, што запланаваная загадзя траўля ўсё-такі пачалася. З ёю, мабыць, і быў звязаны другі бацькаў інфаркт. Падставай быў усё той жа Аляксандр Мікалаевіч.

Спачатку немцы спалілі хату каменданта-вальнадумца. Калі ж ён, нарэшце, аб'явіўся ў Хоцімску, сям'ю арыштавалі, а праз пэўны час Аляксандра Мікалаевіча з шаснаццацігадовым сынам адправілі на прымусовыя работы ў Нямеччыну.

Калі яны вярнуліся адтуль, ім не выдавалі дакументаў і нікуды не выпускалі. Грамадская сітуацыя для Аркадзя Куляшова была такой, што прымусіла яго пайсці на "ваенную хітрасць": напісаць старшыні Саюза пісьменнікаў ліст, у якім аўтар задае Міхасю Ціханавічу пытанне: ці не параіць яму той адрачыся ад бацькі, як гэта зрабіў некалі Паўлік Марозаў.

Толькі дзякуючы зухаватаму капітану паэту Пятру Прыходзьку, які літаральна вырваў з рук мясцовага НКУС і цягніком давёз да Мінска чалавека без дакументаў, нягледзячы на суровы кантроль на чыгунцы, адбылася сустрэча бацькі з сынам.

Яна ўсё праясніла. Схадзілі на прыём да Панамарэнкі, і той даў загад чыноўнікам з Саюза пісьменнікаў спыніць траўлю "адзінага ў СП сапраўднага паэта-франтавіка".

У кастрычніку 1977-га бацька вельмі здзівіў мяне, папрасіўшы не займацца яго літаратурнай спадчынай, бо лічыў, што пасля смерці яго імя падвергнецца шальмаванню. Я з ім не згадзілася, сказаўшы, што плён

# Pro Patria et Radivilo

*Паэтычная творчасць Яна Радвана — нераскрытая старонка ў гісторыі айчыннай літаратуры XV стагоддзя. Лацінская мова, на якой створаны вядомыя на сённяшні дзень вершы паэта, стала асноўнай перашкодай для вывучэння яго творчасці беларускімі навукоўцамі. Ды і не толькі моўная перашкода спрычынілася да занядбанасці літаратурнай спадчыны Яна Радвана, найперш на Беларусі.*

*Яшчэ зусім нядаўна ў айчынным літаратуразнаўстве шырока выкарыстоўваўся не адпаведны гістарычным рэаліям крытэрый нацыянальнай ідэнтыфікацыі творчасці таго ці іншага пісьменніка старажытнасці паводле лакалізацыі яго выданняў ці іх моўнай абалонкі. Нярэдка творы, што ўбачылі свет у Кракаве, прынята было лічыць польскімі; творчасць паэтаў старажытнай Віленшчыны разглядалася ў кантэксце гісторыі літоўскай літаратуры. Зразумела, што вышэйназваныя падыходы стратна адбіліся на ўяўленнях пра развіццё беларускай літаратуры. Беларускі літаратурны працэс XV—XX стагоддзяў, развіваючыся ў рамках самых розных дзяржаўных утварэнняў, не супадае (і не можа супадаць!) з тэрытарыяльнымі межамі сучаснай Беларусі. Прыгадаем у тысячны раз тэзіс, які стаў ужо банальным у сучаснай беларускай медыявістыцы: літаратура — гэта не толькі феномен мовы, але і феномен ментальнасці, выражанай сродкамі мастацкага слова. "Радзівіліяда" Яна Радвана з гэтага пункту гледжання — бясспрэчна беларускі твор.*

*"Радзівіліяда" была выдадзена ў 1588 годзе ў Вільні ў друкарні Яна Карцана. Паэма, што складалася з чатырох кніг (3470 радкоў дактылічнага гекзаметра), была прысвечана ўшанаванню памяці віленскага ваяводы, гетмана Вялікага Княства Літоўскага, князя Мікалая Радзівіла ("Рудога"). У цэнтры ўвагі аўтара — падзеі Лівонскай вайны, але падачы непасрэдных батальных сцэн папярэднічае разгорнутая паэтычная экспазіцыя ў стылі антычнага гераічнага эпасу. Увогуле цесная сувязь з класічнымі літаратурнымі ўзорамі старажытнай Грэцыі і Рыма заўважаная ўжо ў самой назве: "Радзівіліяда", несумненна, уключаецца ў тую ж самую парадыгму (і словаўтваральную, і мастацка-выяўленчую), што "Іліяда" і "Энеіда". У славутым гамераўскім эпасе апяваецца легендарны ліён, які лічыўся непрыступнай цвярдыняй, але быў зруйнаваны сілай, мужнасцю і хітрасцю пакрыўджаных ахейцаў. У творы Вяргілія — адзін з герояў ілiёнскай (траянскай) вайны — Эней, які стаў заснавальнікам Рымскай дзяржавы. У паэме Радвана ўслаўляецца легендарны княжацкі род Вялікага Княства Літоўскага, многія прадстаўнікі якога сталі гонарам і аплотам сваёй Айчыны; апісваюцца подзвігі аднаго з іх — Мікалая Радзівіла.*

*Прадугледжваючы прамую паралель з "Іліядай" або "Энеідай", якую абавязкова павінен правесці чытач, паэт тым не менш адмяжоўваецца ад антычнага эпасу сюжэтна. Пра гэта ён заяўляе ў самым пачатку свайго твора, збіраючыся "аздабляць сваім словам імя" Радзівіла. Разам з тым, Ян Радван захаваў многае ад класічнай паэзіі: зварот да Музаў, традыцыйную вобразнасць, звязаную з антычнай міфалогіяй, паэтычныя рэтардацыі*

*Тэма "Радзівіліяды" — глыбока патрыятычная, бо сам высокі і старадаўні род патронаў і апекуноў паэта цікавіць не сам па сабе, а ў сувязі з гісторыяй Айчыны — старажытнай Літвы. "Свой твор я МАГУТНАЙ ЛІТВЕ прысвячаю", — адзначае аўтар, выдзяляючы прапіснымі літарамі імя Радзімы, як і імя князя Мікалая — героя Лівонскай вайны.*

*Працягваючы справу Яна Вісліцкага і Міколы Гусоўскага, аўтар "Радзівіліяды" падае чытачам (перадусім — замежным) праўдзівыя звесткі пра флору і фауну, геаграфію, этнаграфію роднага краю, агульнымі штрыхамі пазначае яе слаўны гістарычны шлях. Пры гэтым ён захоўвае старажытныя гідронімы, што сустракаюцца яшчэ ў творах антычных аўтараў: Днепр ён называе Барысфенам, Дзвіну — Дунай, Нёман — Хронам, Балтыйскае мора — Венедскім, Чорнае — Эўксінскім. Без паэтычнага надрыву, фальшывай патрыятычнай апантанасці Радван з грамадзянскай годнасцю распавядае пра сваю Радзіму. Ён не збіраецца прыпісваць ёй лішняга: няма тут, маўляў, такіх лясістых гор, як у Кампаніі; гэтая зямля не падобная да цудоўнага вострава Панхаі, бо няма тут прывабных далінаў накшталт тэсалійскай Тэмпэ, няма экзатычных садоў, як у Алкіноя, цара феакаў. Навошта паэту ўсе гэтыя прыпадабненні? Яго радзіма багатая іншымі прыроднымі дзівосамі, гэткімі ж унікальнымі і вартымі захаплення. Майстар слова наўмысна адмаўляецца ад метафарычнасці і гіпербалізацыі. "Я не хачу й светлы лён параўноўваць са срэбнай прасторай", — заяўляе ён, бо бясконцае покрыва льнянога поля самакаштоўнае для яго само па сабе, а таму — ні з чым не параўнальнае.*

*Першая кніга "Радзівіліяды" рэпрэзентуе цэлы шэраг імёнаў, у ліку якіх — і летапісны Палямон, легендарны заснавальнік роду вялікіх князёў літоўскіх, і прапрашчур усіх Радзівілаў — Эрдзівіл, і нашчадкі "бацькі Гедыміна". Імя і асобу Мікалая Радзівіла паэт уключае ў гэты слаўны пералік. Узносячы да нябёсаў ваенныя дзеі князя, Радван узвышае тым самым свайго слаўнага суайчынніка, сына старажытнай Літвы, які атрымаў сваю мудрасць ад продкаў. І ён, Паэт, таксама здзяйсняе свой творчы подзвіг. Дзеля Радзімы і Радзівіла*

**Жанна НЕКРАШЭВІЧ**

# Радзівіліяда,

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

(УРЫВАК)

### КНІГА ПЕРШАЯ

Хтосьці з паэтаў апісвае сонца і месяца рухі,
Целаў нябесных выявы, таксама
марскія прасторы,
Іншыя — першасновы бязмежнага
нашага свету;
Шляхам нялёгкім ідуць яны —
толькі галінка алівы
Гонарам слаўных мужоў асвятляе
прыхільна і годна.
Хтосьці раскажа, магчыма,
пра Дэўкаліонавы воды —
Памятку злоснага веку,
а іншыя пармай Гігантаў
Славу здабудуць: раскажуць
пра войны па волі нябёсаў;
Кадмаву ганьбу апішуць
і дзеі пачварнага Марса,
Дом ненавісны Пелопа
або пачастунак Тыеста
Ці Вавілонскую вежу,
ці Троі ліхія турботы —
Мноства дзівосаў старога, ссівелага свету.
Гэтыя сумныя байкі,
што вабяць адных ганарліўцаў.
Добра вядомыя ўсім,
заслугоўваюць кедра — не веры!
Песні ж мае — не хлусня,
бо яны не з такой барадою:
Я апяваю цябе, Радзівіл, твае слаўныя дзеі,
Вартыя памяці і піэрыйскі вянок ускладаю.
Чутка пра гэткі твой подзвіг
дайшла і да варварскіх межаў,
І да Еўропы, о перле траісты, аднак пачынаю
Я аздабляць сваім словам
імя тваё, Старча вялікі,
Марса твайго, а таксама тваю
пракаветную славу.
О, Каліопа з Эратай,
да нас павярніцеся тварам,
Подзвіг літоўскага правадыра
вы ўслаўляйце шматгучна —
Подзвіг, што зззяе да неба: герой
той і ў міры, і з Марсам
Родны свой край умацоўваў; успомніце
пра навальніцу,
Што праз Улу, па ванавых землях
ляцела шырока.
Хай нават славу яго абкарналі
ў дамовах лівонцы —
Можна лічыць, што ён сам
зваяваў усю Скіфію цалкам.
Слаўце ж героя, Багіні,
і ўсім грамадзянам падайце
Добрыя звесткі. Свой твор
я МАГУТНАЙ ЛІТВЕ прысвячаю.
Неперарможны і велічны край,
добра ў свеце вядомы, —
Гэта Літва, што шырока раскінула
плодныя нівы,
Гэта народ, што надзвычай суровы
ў памкненні да войнаў,
З марсавай мужнасцю ў сэрцы:
успомнім выгнанне Лібона
Ці палямонаву мудрасць згадаем,
ягоныя планы
Скуль жа ідзе радавод старадаўні
літоўскі і скуль жа
Гэты народ шматуладны,
бо і на балтыйскіх узмежжах,
І на ўзбярэжжы Эўксінскім
ён славіцца аж да Алімпа.
Гожых кампанскіх халмоў,
дзе дарункі ўладарнай Цэрэры
З Бакхам спрачаюцца смела,
Панхаі ці Тэмпэ цудоўнай,
Плодных садоў алкіноя і пестумскіх
ружаў пяшчотных,
Розных духмяных раслін, руднікоў
і крыніц мінералаў
Мудрая Маці-прырода зямлі
той надаць не схацела.
Колькі ж тады і якіх ураджаяў
даюць тут святыя Гаргары,
Каб той народ мог штодня
здабываць сабе хлеб бестурботна?
Рэкі празрыстыя тут апярэзваюць
гонкія дрэвы
Нашых лясоў, дзе яны верхавінамі
нават да зораў,
А каранямі да самых стыгійскіх
сутонняў сягаюць.
Лось і алень тут жывуць, люты
зубр знаходзіць прытулак
(Ён языком сваім шорсткім
звычайна хапае здабычу,
Потым падкідвае лёгка ў паветра —
вось гэткая сіла!),
Плямістаскурая рысь з паласатымі
знакамі пысы,
Лёгкая ў руху казуля і тур —
велізарны, магутны.
Што гаварыць тут пра рэкі, азёры,
якія з морам
Могуць спрачацца? А рыбы?
Тут нават тунца можна ўбачыць!
Я не хачу й светлы лён параўноўваць
са срэбнай прасторай.
Мо палічыць мне дары
бласлаўлёнага сонца? Навошта?
Лепей скажу, што ў лясах нашых
велічных — безліч багаццяў.
Дуб напаўняецца тут
прамяністым, чысцюткім нектарам,
Пеніцца ў дуплах празрысты мядок,
каб вясковаму люду
Сотаў духмяных прынесці, і аж
па стваліне бруіцца;
Кубкі на княскім стале напаўняюцца
пахкім напоем.
Як апісаць мне ўсе рэкі, што
з розных крыніц выцякаюць?
Вось Барысфен, што магутна
струменіцца з рокатам гучным,
Потым шумліва абрушвае хвалі
ў бурлівае мора,
Вільгаць пяшчотную зліўшы
з вадою салёнага мора.
Вунь расцякаецца Дуна, што
круціць вірамі імкліва,
Полацкія берагі амывае ў паважным цячэнні,
Потым нарэшце схлынае шырока
ў Венедскае мора.
Ёсць у Літве і такая рака,
што не надта саступіць
Рэкам старым іліёнскім: цячэ
паміж ніваў багатых
Вілія чыстая. Вільна —
яе называюць сястрою —
Лёгка бяжыць у шырокіх абдымках
цудоўнага брата.
Хрона — вось як для мяне,
то ракі прыгажэйшай у свеце.
Многія німфы, дрыяды дубовых
дуброваў хацелі б
Хрону каханкамі стаць,
ды ён мае прывабную Свенту —
Чыстую, нібы бурштын, нават лепей;
зямлёй самагіцкай
Свента цячэ і ўпадае ў цудоўнае
рэчышча Хрона.
Гэты вось край — для літоўцаў
айчына, для мужных судзінаў
І для бясстрашных яцвягаў,
для полаўцаў і для намадаў,
Прусаў яшчэ старажытных,
адважных душою аланаў
І сваякоў іх гепідаў — народаў
магутных і здольных.
З гэтай зямлі — Эрдзівіл
і Трайдэн знакаміты паходзяць,
Слаўны Мінгайла, Скірмонт
неадольны і непераможны,
Потым Рамонт і Міндоўг —
валадар, што каронаю з Рыма
Быў увянчаны; і Віцень
паважны, і шматпераможны
Бацька яшчэ Гедымін,
па загаду якога ўзняслiся
Вільні шматлюднай муры;
а цяпер і сыноў яго ўспомнім,
Годных і мужных братоў
Гедымінавічаў неадольных —
Кейстута разам з Альгердам;
а потым дзяржава Ягайлы
Нават сарматам дала каралёў,
і над гунам магутным
Панства сваё ўсталявала; для чэхаў,
што з роду багемцаў,
Многіх вядомых князёў нарадзіла.
Цяпер МІКАЛАЯ,
З іх аднаго, РАДЗІВІЛА ВЯЛІКАГА,
мы апяваем.
Самі адчуеце: мудрасць
сваю атрымаў ён ад продкаў...

**Пераклад з лацінскай мовы**

**Жанны НЕКРАШЭВІЧ**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты
"Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-8462
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462
Тэл./факс — 284-7965





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2556
Нумар падпісаны ў друк 23.8.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 4822

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12